15 студзеня 2016 | № 2 (467)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Колькі слоў пра прыроду двухдумства
стар. 4

**5 ПРАЦОЎНЫХ ЗМУСЯЦЬ ДА НОВАГА ЖЫЦЦЯ**

Беларусь чакаюць масавыя звальненні працоўных з нерэнтабельных прадпрыемстваў. Наколькі тое разумна, як гэта можа выглядаць і што тут мусіць рабіць улада? Паспрабуем разабрацца

**6 ШТО ПРЫНЯСЕ «НОЧ ЖАХУ» Ў КЁЛЬНЕ?**

Каб «ноч жаху» не адкрыла скрыню Пандоры, трэба, каб яна зняла табу з усяго, што тычыцца мігрантаў, і адкрыла такім чынам магчымасць вырашэння праблемы

**10 ТАЯМНІЦЫ АРХІВУ ВАСІЛЯ БЫКАВА**



Прычыны называць сябе паэтам Васіль Быкаў не падаваў ніколі. Хоць вядомы, як мінімум, два яго вершы

**11 ДЗІВОСНЫЯ СКАРБЫ УЛАДЗІМІРА ЦВІРКО**



Такімі людзьмі, як Уладзімір Цвірко, нельга не захапляцца. Ён і мастак, і этнограф, і падарожнік, і краязнаўца, і мецэнат, і будаўнік, і наогул майстар на ўсе рукі

# Хто штурхае ІП на плошчу?

**Канфлікт паміж уладай і прадпрымальнікамі ўвайшоў у вырашальную фазу**



Сяргей ПУЛЬША

Прадпрымальнікі прыпынілі сваю працу на рынках па ўсёй Беларусі з-за ўказа №222, згодна з якім ІП павінны рэалізоўваць прадукцыю легпрама, увезеную з краін Мытнага саюза, толькі з усімі суправаджальнымі дакументамі (накладныя, сертыфікаты і да т.п.). Гэты канфлікт доўжыцца не першы год — дзеянне ўказа неаднаразова адкладалася. З 1 студзеня ўсе палёгкі скасаваныя.

Сітуацыя ўскладняецца тым, што расійскія пастаўшчыкі, у якіх закупляюць тавар большасць беларускіх ІП, як правіла, адмаўляюцца выдаваць дакументы аб паходжанні прадукцыі альбо прадастаўляюць фіктыўныя даведкі. У выніку беларускіх «індывідуалаў» штрафуюць і канфіскоўваюць тавар. Прычым, у той жа Расіі такі ж самы тавар ІП прадаюць без складанасцяў і дакументаў.

ІП абвінавачваюць уладу ў завышаных патрабаваннях, вынікам чаго стаўся «вымушаны адпачынак». І не з-за святаў альбо нізкага спажывецкага попыту, як сцвярджаюць улады, а з-за дзеянняў той самай улады ў выглядзе новых заканадаўчых патрабаванняў.

Таму Антыкрызісны форум прадпрымальнікаў, які прайшоў у Мінску на гэтым тыдні, сабраў рэкордную колькасць прадстаўнікоў ІП — больш за паўтары тысячы дробных бізнесоўцаў з'ехаліся ў гатэль «Беларусь», канферэнц-зала якога не змагла змясціць усіх жадаючых.

Кіраўнік прадпрымальніцкага аб'яднання «Перспектыва» Анатоль Шумчанка, як і казаў раней, быў не ў настроі «разгойдваць лодку», таму рашуча спыняў усе спробы заклікаць прадпрымальнікаў на маршы пратэстаў. Тых, хто рабіў такія заявы, ён называў «падонкамі і нягоднікамі», і выводзіў з залі. Бо Антыкрызісны форум задумваўся як пляцоўка перамоваў паміж ІП і ўладай.

Прадстаўнікі ўлады прысутнічалі на гэтым мерапрыемстве ў асобах намесніка начальніка ўпраўлення арганізацыі гандлю і паслуг Мінгандлю Андрэя Мяшкова і кансультанта дэпартамента па прадпрымальніцтву Міністэрства эканомікі Валерыя Хомчанкі. Узровень гэтага прадстаўніцтва як бы намякае...

Мяшкоў запэўніваў прадпрымальнікаў, што Мінгандлю, насамрэч, падтрымлівае (!) іх патрабаванні. «Мы адназначна падтрымліваем вашы патрабаванні па накладных, мы падтрымліваем вашы прэтэнзіі па ўстаноўцы плацежных тэрміналаў, і ў тым, што тычыцца сертыфікацыі... Але роля нашых партнёраў у рамках ЕўрАзЭС, у прыватнасці, Расійскай Федэрацыі, вельмі моцная, і наша пазіцыя павінна быць адэкватнай», — сказаў чыноўнік.

За славесным «пернікам» Мяшкоў схаваў і «бізун», нагадаўшы ІП, што нявыхад на працу без папярэдняга паведамлення з'яўляецца парушэннем заканадаўства.

Вось тут і назіраецца «оп-ля!» У чым пазіцыя Расіі моцная? У тым, што яны не патрабуюць ад сваіх прадпрымальнікаў тых дакументаў, якія патрабуе беларускі ўрад? У тым, што там ІП даюць болей свабоды?

Не. «Пазіцыя РФ моцная» ў тым, што там існуюць аптовыя рынкі, на якіх ёсць танны тавар. І ў тым, што адтуль нашы прадпрымальнікі вязуць сваю прадукцыю. А Беларусь, нягледзячы на неаднаразовыя патрабаванні Аляксандра Лукашэнкі, свой «Чэркізон» так і не пабудавала. Праект такога «лагістычнага комплексу» ў Болбасава пад




**ІП пагадзіліся чакаць вынікаў перамоваў да 25 студзеня**

Оршай плануе заканчэнне будаўніцтва аж у 2023-м годзе! А працаваць ІП трэба зараз.

Так што чыноўнікі, выступаючы на Антыкрызісным форуме, за прыгожымі словамі схавалі выключна свой інтарэс па, скажам так, забеспячэнні адсутнасці канкурэнтаў у айчынных прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці.

Але ўжо колькі можна паўтараць, што ва ўмовах адкрытых межаў з Расіяй і свабоднага выезду да іншых нашых суседзяў, беларускі легпрам аніякімі забараняльнымі мерамі не выратуеш. Проста замест ІП за мяжу паедуць звычайныя людзі і будуць затарвацца самі, без пасярэднікаў. Тым больш, што зараз там настае перыяд паслякалядных распродажаў.

Мінгандлю ўсё ж паабяцаў паспрабаваць вырашыць пытанне прадпрымальнікаў «да канца тыдня». ІП ж пагадзіліся чакаць вынікаў перамоваў да 25 студзеня.

Што будзе, калі перамовы, як гэта адбываецца зазвычай, зойдуць у тупік? Шумчанка прапанаваў ІП скарыстацца правам заканадаўчай ініцыятывы, сабраць 50 тысячаў подпісаў і падаць у парламент свой законапраект пра малы бізнес, які адменіць усе шкодныя для ІП указы.

Аднак, па-першае, не факт, што Палата прадстаўнікоў прыслухаецца да ІП. Бо не прыслухаліся ж у свой час да вернікаў, якія сабралі тыя самыя 50 тысячаў подпісаў супраць новага закона аб веравызнанні. Па-другое, сесія пачнецца толькі ўвесну, а да вясны людзям трэба сем'і карміць...

Так што, калі пытанне прадпрымальнікаў не вырашыцца, ім нічога, апроч плошчы і вулічнага пратэсту, не застаецца. Як бы таму не супраціўляўся Шумчанка.

# Беларусь усё яшчэ вельмі кантраляваная краіна, але…

**«Я пакідаю брытанска-беларускія адносіны ў значна лепшым стане, чым гэта было, калі я пачынаў працу», — заявіў у эксклюзіўным інтэрв'ю БелаПАН пасол Вялікабрытаніі Брус Бакнел, які завяршае сваю працу ў Беларусі.**

Паводле слоў дыпламата, яму не ўдалося рэалізаваць усё, што ён планаваў, калі прыехаў у Беларусь у ліпені 2012 года, але пэўныя поспехі ёсць. «Для мяне, як і для іншых маіх калег, вялікім поспехам стала ўваходжанне Беларусі ў Балонскі працэс. Гэта знак прагрэсу, прамень святла, гэта значыць больш блізкіх адносінаў. Калі Беларусь лічыць сябе еўрапейскай краінай, хоча далучыцца да еўрапейскіх інстытутаў, яна павінна адпавядаць пэўным патрабаванням і выконваць пэўныя абавязацельствы. Савет Еўропы — гэта адна з гэтых арганізацый, а Балонскі працэс у цэлым — гэта еўрапеізацыя Беларусі», — сказаў Бакнел.

Сярод іншых важных падзей пасол назваў аднаўленне дзейнасці Брытана-беларускай гандлёвай палаты. «Гэта вельмі добра, таму што ёсць арганізацыя для прасоўвання гандлю паміж Вялікабрытаніяй і Беларуссю», — адзначыў дыпламат.

Але самым важным дасягненнем для сябе і іншых еўрапейскіх паслоў, якія працуюць у Беларусі, Брус Бакнел назваў паляпшэнне адносінаў паміж Мінскам і Брусселем. «Але гэта — працэс. Дыпламатыя — гэта бясконцы працэс. У нас ідзе паступовае, павольнае паляпшэнне адносінаў. Гэта для мяне самы галоўны поспех тут, у Беларусі», — падкрэсліў пасол.

Пры гэтым ён адзначыў, што праблемныя пытанні ў адносінах Беларусі і ЕС засталіся. «Калі я сустракаўся ўчора (5 студзеня. — БелаПАН.) з міністрам замежных спраў Уладзімірам Макеем, мы іх абмяркоўвалі. Гаварылі аб тым, што хутка будзе апублікавана справаздача БДІПЧ АБСЕ аб мінулых прэзідэнцкіх выбарах, і рэкамендацыі аб тым, што можна зрабіць, каб палепшыць сітуацыю ў Беларусі з палітычнымі партыямі і палітычнай дзейнасцю. Мы гаварылі і аб праблеме смяротнай кары», — расказаў Бакнел.

«Я думаю, што Беларусь усё яшчэ вельмі кантраляваная краіна. Але ёсць шлях да Еўропы, а таксама павінны быць паляпшэнні ў пытанні правоў чалавека, дэмакратыі. Канешне, больш свабоды — гэта лепш, але ў любым выпадку гэта паступовы працэс, крок за крокам», — дадаў брытанскі дыпламат.

Сваю дыпламатычную місію ў Беларусі Брус Бакнел завяршае 15 студзеня. Новым паслом Вялікабрытаніі ў Беларусі прызначана Фіёна Гіб, якая, як чакацца, прыедзе ў Мінск у канцы студзеня.

**Таццяна Каравянкова, БелаПАН**

# Бацька за дачку — новая справа ў КПЧ ААН з Гомеля

**Камітэт па правах чалавека ААН прыняў да разгляду скаргу па так званай справе «бацька за дачку».**

Заяўнікам па скарзе з'яўляецца жыхар горада Гомеля Аляксандр Процка, які спрабаваў правесці ў абласным цэнтры пікет супраць абвінавачваннаў роднай дачкі ў здзяйсненні крымінальнага злачынства і распачатай супраць яе дыскрэдытацыі з боку дзяржаўных СМІ. Справа зарэгістраваная пад №2712/2015 і накіраваная на адрас дзяржавы для каментару па сутнасці.

Нагадаем, Галіну Процка, якая ехала ў Турцыю на вяселле да сястры, следства падазравала ў вывазе за мяжу дзяўчат для заняткаў прастытуцыяй. Бацька дзяўчыны каля двух гадоў, пакуль цягнуліся суды, абараняў яе гонар, годнасць і спраўную рэпутацыю. БТ паказала відэасюжэт, у якім назвала яго дачку «сутынёркай, якая пераправаўляе беларускіх дзяўчат за мяжу для заняткаў прастытуцыяй». Падчас трансляцыі дачку Аляксандра Процкі паказвалі ў кайданках.

«У мяне нічога не заставалася, як пачаць публічны пратэст супраць распачатай у дзяржаўных СМІ дыскрэдытацыі маёй дачкі, аднак улада адмовіла мне ў гэтым. Нават Вярхоўны суд падтрымаў мясцовую ўладу, заявіўшы, што я абавязаны за свой кошт аплаціць паслугі мясцовых чыноўнікаў, якія будуць абслугоўваць пікет, то бок мяне — адзінокага з плакатам у руках мужчыну», — успамінае Аляксандр Процка.

Гэтая справа жыхара Гомеля атрымала так званую назву «бацька за дачку». Варта таксама адзначыць, што Гомельскі абласны суд адмяніў з-за недаказанасці прысуд у дачыненні да дачкі Аляксандра. У скарзе ў Камітэт ААН мужчына сцвярджае, што мясцовыя ўлады парушылі ягонае права на выказванне меркавання і свабоду правядзення мірнага сходу.

Раней Камітэт ААН па правах чалавека прызнаваў Аляксандра Процку ахвярай парушэння з боку дзяржавы ягонага права на свабоду распаўсюду інфармацыі, калі яго прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці за распаўсюд запрашэнняў на Чарнобыльскую сустрэчу ў Брагіне.

**prava-by.info**

# Першы штраф журналісту ў 2016-м

**Журналістку, сябру ГА «БАЖ» Ларысу Шчыракову суд Гомельскага раёна пакараў штрафам у памеры 22 базавыя велічыні (4 мільёны 620 тысяч рублёў).**



Ларыса Шчыракова

Яе прызналі вінаватай у парушэнні арт. 22.9 КаАП — незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ, а фактычна — праца на замежныя СМІ без акрэдытацыі. Справу разгледзеў 13 студзеня суддзя Аляксандр Лісоўскі.

Прысутная на судовым пасяджэнні журналістка заявіла, што не прызнае сваёй віны. Яна даводзіла, што праца на замежны СМІ без акрэдытацыі не падлягае адміністрацыйнаму пакаранню, а «вырабам прадукцыі СМІ» можа займацца толькі рэдакцыя СМІ.

Рашэнне суда журналістка збіраецца абскарджваць у больш высокіх інстанцыях.

Сюжэт, які стаў падставай для пратакола, быў прысвечаны праблемам былога гадаванца школы-інтэрната з пасёлка Урыцкі і выйшаў у эфір тэлеканала «Белсат». Пратакол склаў 24 снежня 2015 года капітан міліцыі Гомельскага РАУС Р. Цітоў. Ларыса Шчыракова пры гэтым не прысутнічала і атрымала дакумент поштай 4 студзеня.

Паводле пратакола, журналістка, знаходзячыся 24 снежня 2015 года ў аграгарадку Урыцкае Гомельскага раёна, не маючы акрэдытацыі ў якасці замежнага карэспандэнта СМІ, падрыхтавала інтэрв'ю ў розных грамадзян, незаконна вырабіла прадукцыю сродкаў масавай інфармацыі, а менавіта відэасюжэт «Падтрымка дзяцей-сірот па іх шляху да дарослага жыцця», які быў апублікаваны 24.12.2015 у эфіры тэлеканала «Белсат».

Нагадаем, напрыканцы мінулага і ў першыя дні новага года стала вядома пра некалькі новых пратаколаў па арт. 22.9 КаАП: адзін — на Ларысу Шчыракову, два — на Кастуся Жукоўскага. Трэці пратакол на Кастуся Жукоўскага — з Веткаўскага РАУС — хутчэй за ўсё, у бліжэйшы час прыйдзе яму поштай.

Ларыса Шчыракова і Кастусь Жукоўскі накіравалі скаргі начальнікам Гомельскага, Калінкавіцкага і Кармянскага РАУС, супрацоўнікі якіх складалі пратаколы. Журналісты дамагаюцца адмены складзеных на іх адміністрацыйных пратаколаў.

Летась Кастуся Жукоўскага штрафавалі 6 разоў за парушэнне арт. 22.9 КаАП, Ларысу Шчыракову — двойчы. Агулам у 2015 годзе па артыкуле 22.9 КаАП незалежных журналістаў у Беларусі штрафавалі 28 разоў.

Днямі ў Адміністрацыю прэзідэнта звярнулася кіраўніцтва ГА «БАЖ» — таксама з нагоды пераследу журналістаў-фрылансераў. Арганізацыя заклікала ведамства паспрыяць выкараненню практыкі неабгрунтаванага ўмяшальніцтва супрацоўнікаў органаў унутраных спраў у працу журналістаў. ГА «БАЖ» ужо не раз акрэслівала сваю пазіцыю з нагоды прыцягнення фрыланс-журналістаў да адказнасці за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ.

**Прэс-служба ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»**

# «Было відавочна, што следчая працавала па загаду»

**Адзін з фігурантаў па «справе графітыстаў» Вячаслаў Касінераў, якому падчас затрымання супрацоўнікі САХР (спецыяльны атрад хуткага рэагавання ўнутраных войскаў МУС Беларусі) зламалі сківіцу, працягвае дамагацца прыцягнення да адказнасці датычных да гэтай справы асоб.**



Фота Ірыны Арахоўскай

Вячаслаў Касінераў

Гэтая крымінальная справа знаходзіцца ў вытворчасці ў Следчым камітэце Маскоўскага раёна г. Мінска. Маладога чалавека запрасілі да ўдзелу ў правядзенні апазнання і вочнай стаўкі як пацярпелага. Пасля гэтых мерапрыемстваў следчая Мельнікава паведаміла хлопцу, што плануе спыніць справу.

«Следчая Мельнікава пасля майго прыходу яшчэ гадзіну бегала і збірала статыстаў па вуліцы, а самі ж следчыя мерапрыемствы працягваліся каля шасці гадзін. Было відавочна, што падчас вочных ставак людзі хлусілі. Яны нават баяліся глядзець у вочы. Яны выпрацавалі агульную тэорыю: усе ў адзін голас казалі, што мяне ніхто не збіваў. Таго чалавека, які мяне збіў, я на апазнанні не заўважыў. Але апазнаў супрацоўнікаў, якія ўдзельнічалі ў маім затрыманні.

Усе сведчылі пра тое, што супрацоўнікаў у машыне, калі мяне везлі, было трое. Але не цяжка палічыць, што агулам людзей, якія ўдзельнічалі ў маім затрыманні, было чацвёра: адзін супрацоўнік, які мяне затрымліваў, яшчэ адзін быў побач з ім, быў яшчэ адзін, які знаходзіўся са мной у салоне машыны, гэты ж чалавек страхаваў таго, хто спускаўся па вяроўках да мяне праз вакно. Агулам выходзіць, што іх чацвёра. Было відавочна, што следчая працавала па загаду. І на дадзены момант ёй проста не дадзена каманды кагосьці пасадзіць», — распавёў Вячаслаў Касінераў

Юрыст ПЦ «Вясна» Наста Лойка звярнула ўвагу на непрапарцыйнасць артыкулу, па якім распачата крымінальная справа, бо сітуацыя Вячаслава Касінерава не можа разглядацца як толькі нанясенне менш цяжкага цялеснага пашкоджання пры жорсткім затрыманні, яна мае шмат іншых аспектаў:

«Адразу было зразумела, што завядзенне справы — дастаткова фармальны крок. У той жа час дзіўна, што яна была ўзбуджаная. Былі надзеі, што хаця б фармальна пакажуць чалавека, які гэта здзейсніў. Я чакала, што яны будуць абгрунтоўваць прапарцыйнасць такіх мераў, але яны абралі іншую стратэгію — проста не паказваць чалавека, які гэта зрабіў. Асноўная мэта гэтай справы мусіць быць у тым, каб было вядома хаця б дакладнае імя гэтага чалавека, каб прыцягнуць яго да адказнасці. Да ўсяго таго, зараз справа ўзбуджаная зусім не па тым артыкуле, які адпавядае сітуацыі, гэта сведчыць пра перавышэнне службовых паўнамоцтваў. У гэтай сітуацыі варта ў першую чаргу звярнуць увагу на непрапарцыйнасць дзеянняў супрацоўніка і нанясення цяжкіх цялесных пашкоджанняў».

Нагадаем, 11 жніўня пяцёра хлопцаў былі жорстка затрыманыя па падазрэнні ва ўдзеле па трох крымінальных справах: нанясенні беларускамоўных графіці «Беларусь мае быць беларускай» і «Рэвалюцыя сьвядомасьці, яна ўжо ідзе...», а таксама запэцкванню фарбай сацыяльнага бігборда з выявамі супрацоўнікаў міліцыі. Следчы камітэт прад'явіў абвінавачванні Максіму Пякарскаму, Вячаславу Касінераву і Вадзіму Жаромскаму па ч. 2 арт. 339 «Хуліганства, здзейсненае групай асобаў». Зараз тэрмін папярэдняга следства працягнуты.

**spring96.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Нафта танее, грошы заканчваюцца

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Беларускі рубель працягвае імклівае падзенне ўслед за расійскім. Расійскі рубель падае за цэнамі на нафту. А цэны на нафту дасягнулі ніжэйшай за 14 гадоў мяжы.**



Фота www.meydan.tv

Самы час разабрацца, як кошт нафты ўплывае на Беларусь. Мы атрымліваем ад Расіі 24 мільёны тон гэтага прыроднага рэсурсу пры ўнутраным спажыванні толькі 6 мільёнаў тон. Усё астатняе перапрацоўваем і прадаём за мяжу. Танней нафта — танней і прадукты яе перапрацоўкі, што зніжае нашу валютную выручку. Гэта па-першае.

Па-другое, згодна дамове пра ЕАЭС, мы пакідаем у сябе экспартныя нафтапошліны, якія раней мы аддавалі той жа Расіі. Танней нафта — ніжэй пошліны. Калі падпісваўся ЕАЭСаўскі дакумент, мы разлічвалі на тое, што ў нас застануцца недзе $3 мільярды. Але рэаліі скарэктавалі гэтую суму да $1,3 мільярда ў 2015 годзе. 31 студзеня гэтага года экспартныя пошліны на нафту яшчэ раз знізіліся. Значыць, у 2016 годзе мы не атрымаем і гэтага.

Мінфін у 2016 годзе ад экспартных пошлінаў на нафту разлічваў атрымаць недзе $1,3–1,5 мільярда — летуценікаў у гэтай структуры малавата. Але прагноз быў зроблены, зыходзячы з коштаў на нафту ў $57 за барэль. Зараз кошт нафты ўпаў удвая, і прагноз па грошах трэба таксама распалавініць.

Па-трэцяе, беларускі бюджэт, услед за расійскім, звярстаны з разлікам $50 за барэль нафты. Расія, сыходзячы з новых рэалій, ужо пачала секвестраванне — то бок абразанне ў мэтах эканоміі, — свайго фінансавага дакумента. Нашы ж дэпутаты без пытанняў прынялі яго за адзін дзень, і са спакойнай душой раз'ехаліся да вясны. То бок, мы працягваем працаваць пры нерэальным бюджэце, і адназначна завалім ягонае выкананне.

Дарэчы, пра Расію. Кіраўнік яе Мінфіна Антон Сілуанаў заявіў, што імавернае далейшае падзенне коштаў нафты. А значыць, неабходна змена бюджэтнай стратэгіі, сказаў міністр. Паводле яго слоў, міністэрства і ведамствы павінны на 10% скараціць выдаткі зараз, і на 20% — да канца 2016-га. Змена бюджэтнай стратэгіі і маштабнае скарачэнне выдаткаў прыводзіць да адной простай думкі — сінявокай не варта разлічваць на крэдыт Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця. Мы прасілі ў гэтага фонду $3 мільярды, а фонд усё зацягваў і зацягваў з рашэннем. Зараз, відавочна, сродкі з ЕФСР спатрэбіцца самой Расіі, і ў значна большай колькасці, чым Беларусі. Так што пытанне пра гэты ўнёсак у наш бюджэт можна лічыць закрытым, спадзевы толькі на МВФ.

З 18 студзеня на нафтавы рынак выходзіць Іран, з якога былі зняты міжнародныя санкцыі. Таму верагодна, што нафта ўпадзе далей. Нам салодка не прыйдзецца, бо расійскі «нафтавы ручаёк» спыніцца ўвогуле. Бо, як кажа спецыяліст кампаніі «Rusenergy» Міхаіл Круціхін, сярэдні сабекошт здабычы, напрыклад, у «Раснафты» цяпер складае $35–37.

Нізкі кошт нафты мы пачынаем адчуваць ужо сёння. Улады адмовіліся ад святкавання Новага года і Каляд са святых. Памятаецца, яшчэ ў першае паўгоддзе свайго кіраўніцтва Аляксандр Рыгоравіч, вярнуўшыся з нейкай замежнай вандроўкі, пабачыў, што падаражэў хлеб. І тады ён у першы раз загадаў адкруціць цэны назад. З гэтага і пайшла беларуская эканамічная мадэль ручнога кіравання эканомікай.

Зараз улады адпусцілі цэны на «сацыяльна значныя тавары»: хлеб, мяса, малако і дзіцячае харчаванне. Іх кошт больш не рэгулюецца дзяржавай, гаворыць пастанова Савета міністраў ад 11 студзеня.

«З улікам прадстаўленага шырокага асартыменту прадукцыі рознага цэнавага сегмента на рынку і канкурэнцыі сярод вытворцаў у цяперашні час адсутнічае неабходнасць у цэнавым рэгуляванні шэрагу харчовых тавараў (хлеб, мяса, яйка курынае, малочныя прадукты, дзіцячае харчаванне) на пастаяннай аснове», — пракаментавалі дакумент у прэс-службе ўрада. Рэгуляванне цэн на гэтыя тавары будзе ажыццяўляцца «пры неабходнасці ў мэтах выключэння значнага росту цэн» і на часовы тэрмін, але не больш за 90 дзён на працягу аднаго года.

Таксама пастановай выключаецца рэгуляванне тарыфаў на шэраг паслуг. Так, напрыклад, выключаецца рэгуляванне тарыфаў на прафілактычныя і абавязковыя медыцынскія агляды грамадзян, бо «аплату за іх праходжанне ў асноўным ажыццяўляюць суб'екты гаспадаркі».

А тое, што ў суб'ектах гаспадаркі таксама працуюць людзі, нікога не цікавіць? І чым больш суб'ект заплаціць за абавязковы і ўстаноўлены дзяржавай медагляд, тым менш ён выдасць заробку свайму працоўнаму.

Так што секвестраваць бюджэт давядзецца не толькі дзяржаве, але і яе грамадзянам. Прынамсі, гэты год пакажа, наколькі багатая ў беларусаў «валютная заначка».

Пра гэта сведчаць вынікі гандлю валютамі ў 2015-м. Мы памятаем, што ў мінулым годзе стаялі прадпрыемствы, людзей адпраўлялі ў «прымусовыя адпачынкі», рэзка ўпалі заробкі. Як вынік, людзі звярталіся да сваіх зберажэнняў.

Як піша Агенцтва фінансавых навінаў, у 2015-м беларусы рэзка адмовіліся ад куплі валюты. Асабліва гэта паказаў снежань ужо мінулага года, таму што працоўныя ў гэты перыяд традыцыйна атрымлівалі не толькі асноўны заробак, але і прэміі «да новага года», і «трынаццатую зарплату». Лішкі грошай мы канвертавалі ў надзейную замежную валюту.

Дык вось, за снежань 2015-га насельніцтва набыло рэкордна малую суму: усяго $7,97 мільёна. Па выніках усяго года баланс таксама дзівосны: насельніцтва прадало больш валюты, чым купіла, на $129,58 мільёна. Нагадаю, што гэта розніца паміж продажам і купляй валюты на карысць продажу, каб вас не заблытала яшчэ адна лічба.

$970,05 мільёна — столькі валюты насельніцтва прадало наяўнымі за год.

Гэта значыць, што ў мінулым годзе людзі сур'ёзна падчысцілі свае заначкі, а вось папаўняць іх сродкаў не было. Ці хопіць грошай у народа на тое, каб пражыць 2016-ы, пра складанасць якога нас неаднаразова папярэджвалі і ўрад, і кіраўнік дзяржавы?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Глеб Вайкуль

**Адзін з актыўных удзельнікаў «Маршу студэнтаў» днямі быў адлічаны з БДУ.**

Па афіцыйнай версіі, Глеб Вайкуль не здаў залік, таму не быў дапушчаны да сесіі, і стаў «акадэмічна непаспяховым».

Сам Глеб, зразумела, лічыць сваё адлічэнне матываваным палітычна. Але спыняцца не збіраецца. Разам з яшчэ адным сябрам па такім жа няшчасці, Пётрам Маркелавым (той быў адлічаны з геаграфічнага факультэта таго ж БДУ пасля ўдзелу ў мясцовых выбарах 2014 года) ён падаў дакументы на рэгістрацыю моладзевага грамадскага аб'яднання «Інтэрмарыюм», — па-нашаму «Міжмор'е».

Мэта арганізацыі, як кажацца ў прэс-рэлізе, — аднаўленне культурных і сацыяльных сувязяў паміж краінамі Міжмор'я, а таксама садзейнічанне палітычнай і эканамічнай інтэграцыі рэгіёна. «Міжмор'е — гістарычны рэгіён у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, які перш за ўсё ўключае Беларусь, Украіну, Польшчу і Літву», — зазначаюць яго стваральнікі.

Праўда, першая спроба рэгістрацыі арганізацыі была няўдалай: Галоўнае ўпраўленне юстыцыі Мінаблвыканкама адмовіла ва ўзаконьванні аб'яднання. Паводле слоў Пятра, над іх арэндадаўцам «здзейснілі юрыдычную расправу». «Пракуратура, выканкам і іншыя кантрольныя органы наведалі яго з праверкай. Простым тэкстам шакаванаму бізнесмену паведамілі, што калі ён будзе месц справы з нашай арганізацыяй, на праверках справа не скончыцца». У выніку прадпрымальнік адклікаў гарантыйны ліст.

## Кірыл Руды



**Памочнік прэзідэнта па эканоміцы выступіў у ролі складальніка манаграфіі «Фінансавая дыета: рэформы дзяржаўных фінансаў Беларусі».**

Сярод аўтараў манаграфіі 20 даследчыкаў з БДЭУ, Акадэміі навук, Даследчага цэнтра ІПМ і іншых установаў.

Ужо апублікаваныя ўрыўкі з гэтай кнігі, якую, пэўна, адразу палічаць «экстрэмісцкай». Бо Руды лічыць, што ў нас, насамрэч, не «сацыяльная дзяржава», а дзяржаўны капіталізм.

У адным з раздзелаў Кірыл Руды піша пра сённяшняе пакаленне беларусаў: «Гэта пакаленне фарміравання сярэдняга класа і грамадзянскай супольнасці… Усё часцей яно пачынае само культываваць і пручаць старэйшых пакаленні да грамадскіх каштоўнасцяў: нацыянальнай культуры, мовы, суверэнітэту, самаідэнтыфікацыі (гістарычнай упэўненасці), аховы здароўя, адукацыі, спорту, навакольнага асяроддзя, грамадскага парадку».

«Агульным для трох пакаленняў беларусаў з'яўляецца імкненне да пераходу ад дзяржаўнага капіталізму да чалавечага з вяршэнствам індывідуальных і грамадскіх каштоўнасцяў», — напісаў Руды.

## Вікторыя Азаранка



**Прыма беларускага тэніса ўсё ж выйграла турнір ВТА.**

У галоўным матчы Брысбенскага «прэм'ера» Вікторыя Азаранка перамагла 10-ю ракетку свету Ангеліку Кербер у двух сэтах. Сама Азаранка на той час займала 22-ю пазіцыю ў рэйтынгу.

Дарэчы, на турніры ў Брысбене беларуска не прайграла ні аднаго сэта. На шляху да фіналу яна перамагла расіянку Алену Весніну (6:2, 6:0), Ісалін Бонаванцюр з Бельгіі, якая замяніла румынку Сімону Халеп (6:3, 6:2), італьянку Раберту Вінчы (6:1, 6:2), Саманту Кроўфард з ЗША (6:0, 6:3).

А адзначыла перамогу Азаранка вельмі цікава. Яна выступіла рэжысёрам музычнага роліка з сабой у галоўнай ролі. 2-хвілінны ролік, зрэжысаваны тэнісісткай, зняты ўначы і паказвае, як яна выконвае фізічныя практыкаванні, ездзіць на матацыкле і малюе графіці. Музычны рэфрэн перарываецца рэплікамі Серэны Уільямс пра тое, што «вядома, Азаранка вернецца», і самой Азаранкі пра тое, што яна зробіць «што заўгодна».

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Колькі слоў пра прыроду двухдумства




**Улада ў Беларусі гатовая весці перамовы з Захадам, але не бачыць неабходнасці наладжваць дыялог з грамадствам.**

Пачну з прыкладу са свайго савецкага мінулага, для чаго прапаную перамясціцца на сход партгасактыву заводу «Транзістар». На трыбуне начальнік аднаго з цэхаў дае справаздачу пра поспехі ў арганізацыі сацыялістычнага спаборніцтва. Зала не надта ўважліва слухае. Мой начальнік цэха, які сядзіць побач, ціха і нязлосна мацюкаецца. Гучаць рэдкія апладысменты. Справаздача скончаная. Старшыня запрашае на трыбуну майго начальніка цэха. Прыйшла яго чарга вымавіць стандартны набор слоў пра сацыялістычнае спаборніцтва.

Такія правілы гульні. Такія правілы выжывання ў таталітарнай сістэме. На мове аўтара рамана «1984» Джорджа Оруэла гэта называецца «двухдумства» (doublethink). Цытую: «двухдумства — душа Ангсоцу (англійскага сацыялізму. — С.Н.), паколькі партыя карыстаецца наўмысным падманам, цвёрда трымаючы курс да сваёй мэты, а гэта патрабуе поўнай сумленнасці. Казаць свядомую хлусню і адначасова ў яе верыць, забыць любы факт, які стаў нязручным, і дастаць яго з забыцця, як толькі ён зноў спатрэбіўся, адмаўляць існаванне аб'ектыўнай рэчаіснасці і ўлічваць рэчаіснасць, якую адмаўляеш, — усё гэта абсалютна неабходна».

Двухдумства — гэта механізм прыстасавання да рэпрэсіўнай дзяржавы, да непадкантрольнай улады. Яно — аснова «савецкага (і беларускага. — С.Н.) трывання». Нездарма ж 24 мая 1945 года на мерапрыемстве ў гонар камандуючых войскамі Чырвонай Арміі Сталін падняў тост за трыванне рускага народа.

Двухдумства дапамагала савецкаму чалавеку правесці выразную мяжу паміж прыватным жыццём і жорстка кантраляваным уладай жыццём публічным. Здавалася б, Перабудова скасавала патрэбу ў двухдумстве. Адміняла, але ненадоўга. Знайшоўся ў Беларусі чалавек, які падняў уладу з бруду і пад воплескі «большасці» адрадзіў не проста дзяржаву, а «моцную» дзяржаву.

Гэтая сіла, перш за ўсё, была выкарыстаная для падзелу беларусаў на сваіх і чужых. Сваіх з трыбуны прынята называць «народам», чужых — «пятай калонай». Задача народа — раз на пяць гадоў дэманстраваць «усяму свету найвышэйшую палітычную культуру», «адзінства» і «незалежнасць меркаванняў». Задача пятай калоны — самім фактам свайго існавання запалохваць народ. Без стымулявання страхам здольнасць народа дэманстраваць сваю палітычную сталасць рэзка зніжаецца.

### Неабходна сустракацца

Калі ў эпоху класічнага таталітарызму чалавек, незалежна ад месца ў іерархіі, у прыватным жыцці выкарыстоўваў адну мову, а ў публічным — іншую, то сёння ў публічным жыцці неабходна ўмець размаўляць адначасова на дзвюх мовах. На адной — з Захадам. Гэта мова, якая вымушана лічыцца з нормамі так званай «сусветнай супольнасці». Гэта мова, на якой можна выступаць у ААН. На іншай мове прадстаўнікі ўлады ў публічнай прасторы размаўляюць са сваімі.

За прыкладамі далёка хадзіць не трэба. 27 верасня 2015 года адзіны палітык (АП) выступіў на Саміце ААН. Абмяжуюся двума абзацамі: «Неабходна на справе прызнаць, што мы ўсе розныя і што кожны народ, кожная краіна маюць права на выбар свайго шляху развіцця. Менавіта ў нашай разнастайнасці — залог агульнага прагрэсу і поспеху кожнага.

Такі падыход дазволіць аднавіць давер у нашым міжнародным жыцці. Але для гэтага неабходна сустракацца і весці дыялог, дамаўляцца, знаходзіць магчымасць канструктыўнага ўзаемадзеяння. А дамовіўшыся, дзейнічаць».

Выдатна, пагадзіцеся. Разнастайнасць — падстава агульнага прагрэсу. Хто б мог падумаць! А як вам пасаж наконт неабходнасці сустракацца? Дык хто перашкаджае!

Нягледзячы на мэтанакіраваную працу АП па ўвядзенні ў Беларусі аднадумства, знішчыць разнастайнасць беларускага грамадства яму так і не ўдалося. Калі ў так званай Палаце прадстаўнікоў (парламенце) адсутнічаюць фракцыі, гэта яшчэ не даказвае маналітнасць беларускага грамадства. Да заходняга ўзроўню складанасці яму, безумоўна, далёка, але і да аднастайнасці могілак шлях няблізкі. У Беларусі ёсць каму і з кім дамаўляцца дзеля канструктыўнага ўзаемадзеяння.

Але не варта блытаць божы дар з яечняй, а экспартны варыянт палітычнай рыторыкі з варыянтам для ўнутранага выкарыстання. Прапаную з Саміту ААН у Нью-Ёрку перанесціся ў Мінск на ўчастак галасавання пад сімвалічным нумарам 1. На календары 11 кастрычніка 2015 года. АП толькі што выканаў свой грамадзянскі абавязак і размаўляе з журналістамі: «Самае галоўнае, я гэта ўжо не аднойчы падкрэсліваў, мы праводзім нашы выбары згодна з Канстытуцыяй і заканадаўствам нашай краіны. У нас ёсць законы, Канстытуцыя. Яны прайшлі адпаведную ацэнку. Канстытуцыя і нашы законы прызнаны ва ўсім свеце».

З агульнага спісу нашых законаў возьмем Выбарчы кодэкс. Артыкул 35 вызначае парадак вылучэння прадстаўнікоў у склад тэрытарыяльных, акруговых і ўчастковых камісій. Пералік суб'ектаў, надзеленых правам вылучаць сваіх прадстаўнікоў у камісіі, адкрываюць палітычныя партыі.

Але што мы маем фактычна? Апазіцыйныя палітычныя партыі вылучылі ў склад участковых выбарчых камісій 464 чалавекі. Сіта выканаўчых камітэтаў здолелі пераадолець толькі 30 чалавек (6,4%). У праўладных партый прынцыпова іншыя паказчыкі: з 3362 вылучэнцаў у склад камісій было ўключана 2906 чалавек (86,4%).

У якасці кур'ёзу адзначым Аграрную партыю, 610 прадстаўнікоў якой забяспечвалі справядлівасць падліку галасоў на выбарчых участках. Прычым 602 чалавекі ў Мінску! Такія ў Беларусі аграрыі. Сваю палітычную актыўнасць яны здольныя праяўляць толькі на сталічным асфальце. Ці варта пасля гэтага здзіўляцца скарачэнню збору збожжавых культур у 2015 годзе на 6,1%. Ну, не растуць збожжавыя на асфальце, нягледзячы на актыўнасць актывістаў з Аграрнай партыі!

Ці ёсць элемент двухдумства ў наяўнасці такой партыі ў Беларусі — вырашаць чытачам.

### А кароль жа голы!

Калі чарговым разам сутыкаешся са спасылкамі на Канстытуцыю, неабходна памятаць, што ва ўмовах двухдумства такія спасылкі маюць на ўвазе існаванне іншай, унутранай Канстытуцыі (як тут ні прыгадаць падзел партыі на знешнюю і ўнутраную ў Оруэла).

Наяўнасць унутранай Канстытуцыі не агучваецца, але менавіта па яе лякалах выстройваюцца рэальныя адносіны ў краіне. У знешняй Канстытуцыі існуе прэзідэнт і суд, ва ўнутранай — манарх і адміністрацыя прэзідэнта. Спіс нестыковак можна лёгка працягнуць.

У Англіі няма пісанай канстытуцыі, але ўлада жыве па канстытуцыйных законах. У Беларусі ёсць пісаная канстытуцыя, але ўлада жыве па канстытуцыйных паняццях.

Падпісаўшы 1 жніўня 1975 года Заключны акт Хельсінкскай нарады, Савецкі Саюз узяў на сябе абавязацельствы выконваць правы чалавека, у тым ліку свабоду слова, свабоду сумлення і свабоду перакананняў. Гэта была адна з першых спроб Крамля размаўляць з Захадам на мове Захаду. Але, як нескладана здагадацца, карэкціроўкі мовы для ўнутранага спажывання пасля Хельсінкі не здарылася.

Дзейнасць Маскоўскай Хельсінкскай групы (МХГ), створанай савецкімі дысідэнтамі ў 1976 годзе, і была накіравана на садзейнічанне выкананню Хельсінкскіх пагадненняў, г. зн. супраць палітыкі двухдумства. Праваабаронцы фактычна спрабавалі гуляць ролю хлопчыка з казкі Андэрсана аб голым караля. Зразумела, што на такую дзёрзкасць дзяржава адказала рэпрэсіямі. У перыяд з 1976 па 1982 год былі арыштаваныя і асуджаныя да розных тэрмінаў зняволення або высылкі восем сябраў групы, яшчэ шасцёра былі вымушаныя эміграваць з СССР, іх пазбавілі грамадзянства.

Двухдумства як прынцып арганізацыі жыцця і прынцып «Жыць не па хлусні!» паміж сабой не спалучаюцца. Любыя паслядоўныя спробы рэалізаваць другі прынцып вядуць да разбурэння першага. Таму кожны, хто адважваецца крыкнуць: «А кароль жа голы!», павінен разумець, якія дзеянні з боку дзяржавы за гэтым варта чакаць. І «дзяржава для народа» ў беларускім варыянце выключэннем не з'яўляецца.

### Рост апынуўся падзеннем

Мова — найважнейшая для чалавека знакавая сістэма. Дзве мовы — дзве знакавых сістэмы. Іх адначасовае існаванне спараджае грамадскі лад, у якім людзі не ў стане ўзаемадзейнічаць паміж сабой на падставе ўніверсальных правілаў. Таму тое, што прынята лічыць у нас грамадствам, па факце з'яўляецца толькі механічнай сумай атамізаваных грамадзян.

А з такім сацыяльным «матэрыялам» можна не цырымоніцца і выбудоўваць адносіны паводле прынцыпу: «Каму я павінен (абяцаў) — усім дару». На мове Оруэла гэта азначае «забыцца пра любы факт, які стаў нязручным».

У завяршальны год пяцігодкі на ролю галоўнага нязручнага факта прэтэндавалі сацыяльныя абавязацельствы дзяржавы, прынятыя на чацвёртым Усебеларускім народным сходзе. Іх шырокі спіс адкрываўся абавязацельствам да 2015 года «наблізіць памеры заработнай платы да тысячы долараў у эквіваленце». Сказана — зроблена. Але «самыя высокія ў нашай гісторыі тэмпы росту зарплаты насельніцтва» па факце апынуліся самымі высокімі тэмпамі яе падзення.

Аднак бязвыхаднае на першы погляд становішча не збянтэжыла «дзяржаву для народа» і яе нязменнага кіраўніка. Нязручны факт быў забыты.

Камуністы хрушчоўскага прызыву забыліся ў 1980 годзе пра сваё абяцанне пабудаваць за дваццаць гадоў матэрыяльную базу камунізму, прадэманстраваўшы тым самым бяспамяцтва ў сусветным маштабе. Праз пяць гадоў гэта бяспамяцтва адгукнулася Перабудовай.

Бяспамяцтва, яно ж амнезія — «захворванне з сімптомамі страты памяці, асабліва на нядаўнія важныя падзеі, або няпоўныя ўспаміны пра падзеі, якія адбыліся». Вызначэнне амнезіі я запазычыў у Вікіпедыі. Да беларускай сацыяльна-палітычнай практыкі яно не мае ніякага дачынення, і таму бескарысна спрабаваць лячыць бяспамяцтва АП метадамі традыцыйнай медыцыны.

# Працоўных змусяць да новага жыцця

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Верагодна, што ў 2016 годзе Беларусь чакаюць масавыя звальненні працоўных з нерэнтабельных прадпрыемстваў. Наколькі тое разумна, як гэта можа выглядаць і што тут мусіць рабіць улада? Паспрабуем разабрацца.**

## Непатрэбныя працоўныя рукі

Зараз ніхто з эканамістаў не чакае ад 2016 года ўздыму беларускай эканомікі. Усе прагнозы абяцаюць або працяг рэцэсіі (павольнае зніжэнне ўсіх паказчыкаў), або проста стагнацыю — замарозку цяперашняй нягегласці. Па сутнасці, беларуская эканоміка — гэта адказ на пытанне, ці можна насіць ваду ў рэшаце. Адказ: можна, калі вады ў рэшата льецца больш, чым выліваецца. Пакуль нафта была дарагая, і Расія купляла ўсе нашы тавары, а Захад — нафтапрадукты, вады лілося больш, чым вылівалася. Цяпер вада ў рэшата не льецца, а рэшата — буйная ды неэфектыўная прамысловасць — засталося.

Працяг стагнацыі беларускай эканомікі ў 2016 годзе будзе мець адно вельмі сур'ёзнае наступства: масавыя звальненні працаўнікоў з нерэнтабельных заводаў. Улады ўсяляк пазбягалі такіх звальненняў у 2015-м па шэрагу прычын, першая з якіх — выбары прэзідэнта. Але эканамічная сітуацыя не паляпшаецца, і стратныя прамысловыя гіганты будуць проста вымушаны звальняць персанал. Кагосьці з іх, канешне, дзяржава падтрымае — як, напрыклад, падтрымлівае зараз «Гомельшкло», «Камволь» ці «Гомсельмаш». Але большасць будзе або наўпрост банкруціцца, або балюча рэструктурызавацца са значным скарачэннем штату.

Чаму так адбываецца — не сакрэт. З канца 2014 года расійскі рынак для беларускіх тавараў практычна страчаны. Вытворцы, якія ў 2012–2014 гадах добра жылі, прадаючы свой тавар усходнім суседзям, сёння сядзяць без грошай — але з забітымі складамі (прагнозныя паказчыкі па вытворчасці ніхто не адмяняў). Выйсці на іншыя рынкі яны не могуць.



«Наш экспарт і надалей будзе падаць, паколькі канкурэнтаздольнасць нашых вытворцаў панізілася. Справа тут нават не ў попыце з боку Расіі. Проста мы тэхналагічна адстаём ад усяго свету. Мы ўжо не можам рэальна прадаваць за мяжу нічога, апроч сыравіны ды прадуктаў яе першаснай перапрацоўкі. Нават цэмент — і той з цяжкасцю прадаём», — упэўнены эканаміст **Леанід Злотнікаў.**

Насамрэч, усё больш беларускіх прадпрыемстваў сёння скарачаюць або цалкам спыняюць вытворчасць. Прыклад таму — спыненне з кастрычніка 2015-га вытворчасці тэлевізараў. «Так, нам варта чакаць масавых звальненняў з заводаў. Не факт, што яны будуць зусім ужо абвальна-масавымі, але дакладна звальненняў будзе нашмат болей, чым раней, — прагназуе галоўны аналітык фінансавай кампаніі «Alpari» **Вадзім Іосуб.**



— Безумоўна, для эканомікі гэта будзе добра, бо звальненні будуць адбывацца на нежыццяздольных прадпрыемствах, а таксама на прадпрыемствах з відавочна залішняй колькасцю працуючых».

Спіс прадпрыемстваў, якія будуць скарачаць працаўнікоў, вядомы ўжо сёння. Гэта лідары па стратах.

Вось як выглядае Топ-10 самых стратных прадпрыемстваў на канец 2015 года:

1. «Гомсельмаш»
2. БМЗ
3. МТЗ
4. «Гомельшкло»
5. МАЗ
6. Светлагорскі ЦКК
7. Барысаўскі мясакамбінат
8. «Крычаўцэменташыфер»
9. «Амкадор»
10. БАТЭ

Як бачым, спрэс яшчэ нядаўнія «флагманы» беларускай прамысловасці. І звальненні там ужо пачаліся. Паводле інфармацыі Міністэрства фінансаў, у III квартале 2015 года колькасць працоўных на МАЗе скарацілася на 1344 чалавекі, на «Белшыне» — на 1133, на МАПІДзе — на 1044. Але ж шмат звальненняў можна чакаць і ў невялікіх мястэчках, дзе масава рыхтуюцца да банкруцтва невялікія прадпрыемствы. Прыклад — Елізава, дзе банкруціцца завод шклатары, якім валодаў пасаджаны ў СІЗА бізнесмен Аляксандр Мураўёў (саўладальнік «Мотавела»).

Цяперашні попыт на працоўную сілу — самы нізкі з 2004 года. Нават у 2009-м, на фоне сусветнага эканамічнага крызісу, калі ў Беларусі назіраўся спад прамысловай вытворчасці, узровень заяўленых вакансій быў вышэйшы, паведамляе БелаПАН. На гэтым фоне ў 2015 годзе ў краіне акрэсліўся тэндэнцыя росту беспрацоўных. Паводле звестак Міністэрства працы і сацабароны, на 1 снежня ў



**Такія гіганты, як МАЗ, «Белшына», «Гомсельмаш», не могуць існаваць у сённяшнім выглядзе. Іх лёс — раздрабленне на мноства вузкапрофільных вытворцаў**

Беларусі колькасць беспрацоўных, якія знаходзяцца на ўліку, склала 43,2 тысячы чалавек. Для параўнання: напрыканцы 2014 года гэты паказчык складаў 24,2 тысячы чалавек, у канцы 2013-га — 21 тысячу. Згодна з афіцыйнымі звесткамі, сёння ў Беларусі максімальная з 2007 года колькасць беспрацоўных.

І гэта толькі пачатак. У 2016–2017 гадах ва ўлады няма асаблівых прычынаў моцна тармазіць масавыя звальненні. Выбары прэзідэнта прайшлі, затое патэнцыйныя крэдыторы — МВФ ды ЕФСР — якраз і патрабуюць спыніць дзяржаўную падтрымку стратных заводаў. І гэта цалкам лагічна з эканамічнага пункту гледжання — зараз даводзіцца марнаваць вялікія грошы, дзяржаўныя рэсурсы, на падтрымку нікому не патрэбнай занятасці, а па сутнасці — міфу пра «сацыяльную дзяржаву».

«Нават па афіцыйных ацэнках, мінімум паўмільёна чалавек пры існуючай сістэме вытворчасці з'яўляюцца лішнімі, бо яны незапатрабаваныя рынкам, — гаворыць эканаміст **Яраслаў Раманчук.**



— Прычым інтэграваць (узяць на працу) столькі людзей не здольныя ні дзяржпрадпрыемствы, ні холдынгі, ні канцэрны — гэта давядзецца рабіць малому і сярэдняму бізнесу. Таму калі ўлада «наязджае» на індывідуальных прадпрымальнікаў — гэта не толькі абсурдна, але і небяспечна».

## Праблема амаль без вырашэння

Сапраўды, адна справа — проста звольніць з прадпрыемстваў лішніх людзей. Але куды іх падзець? Больш за 20 гадоў беларускі электарат прывучалі да сацыяльнай дзяржавы, прывучалі, што «чарка ды шкварка» абавязкова будзе. А зараз — яшчэ і дэманструюць, што будзе з тым, хто паспрабуе рабіць свой уласны бізнес.

На жаль, трэба канстатаваць: сёння, пры цяперашняй сацыяльна-эканамічнай мадэлі, вырашыць праблему масава звальняемых людзей — немагчыма. Для гэтага патрэбная згода дзяржавы на сур'ёзныя рэформы. Хай сабе і па ўзоры Кітая — без палітычнага пацяплення, але з наданнем свабоды прыватнаму бізнесу, з павагай да прыватнай уласнасці. Гэта першае. Другое (і значна больш складанае) — патлумачыць людзям, што на добрую дзяржаву разлічваць больш не варта. Яна дасць магчымасць зарабляць самому, але гарантаваць занятасць больш не будзе. Натуральна, гэта вялікая рызыка для дзеючай улады. А раптам знойдзецца папуліст, большы за Лукашэнку? Які распавядзе, што насамрэч нікога звальняць не трэба, а варта проста падзяліць паміж людзьмі прыбыткі ад продажу хлорыстага калію — і ўсім стане добра!

Але ўявім, што дзяржава дала згоду на рэфармаванне. Што можна зрабіць, каб беларуская эканоміка «паглынула» ад 500 тысяч да мільёна звольненых людзей? Насамрэч рэцэпты ёсць. Больш за тое, яны добра вядомыя і адпрацаваныя ў такіх краінах, як Польшча, Чэхія, Славакія, Венгрыя і гэтак далей.

Такім чынам, па чарзе:

- **Актыўнае развіццё малога прыватнага бізнесу.**

У Польшчы рэформы пачаліся з таго, што ў 1988 годзе быў прыняты так званы «закон Вільчэка» (ад імя міністра прамысловасці Мечыслава Вільчэка). Ён дазваляў палякам займацца любым бізнесам, з самымі мінімальнымі абмежаваннямі (кшталту ліцэнзавання).

У 1990 годзе Лешак Бальцаровіч шакаваў краіну ўльтраліберальнымі рэформамі. Нерэнтабельныя прадпрыемствы зачыняліся адно за адным. Але тыя, каго звальнялі, знаходзілі працу ў прыватным сектары або распачыналі ўласны бізнес. Таму спрыялі шматлікія праграмы падтрымкі малых прадпрыемстваў, даступныя крэдыты пад стварэнне малога бізнесу.

- **Экспарт працоўнай сілы.**

З 1988 па 1995 год з краіны з'ехала на заробкі каля 2 мільёнаў палякаў. Так, гэта былі найбольш дасведчаныя працаўнікі, з веданнем моваў. Але за апошнія пяць гадоў вярнулася ўжо амаль палова. Яны вяртаюцца з грашыма, купляюць у Польшчы нерухомасць, распачынаюць бізнес, інвестуюць.

- **Глыбокая рэструктурызацыя прадпрыемстваў.**

Такія гіганты, як МАЗ, «Белшына», «Гомсельмаш», не могуць існаваць у сённяшнім выглядзе. Іх лёс — раздрабленне на мноства вузкапрофільных вытворцаў, кожнаму з якіх будзе лягчэй адшукаць сваю нішу на рынку.

- **Прыватызацыя «з абавязкам».**

Буйныя, але стратныя прадпрыемствы можна прадаваць замежным інвестарам практычна задарма, але з прынцыповай умовай: або захаваць працоўныя месцы, або ўсім, каго звальняюць, — аплаціць перанавучанне на новую спецыяльнасць, запатрабаваную рынкам.

- **Стымуляванне прыватнага аграрнага прадпрымальніцтва.**

Сёння ў Польшчы знаходзіцца 12% ад агульнага аграбізнесу ЕС. У Еўропе 12 мільёнаў фермерскіх гаспадарак, з іх у Польшчы — 1,5 мільёна. Краіна — на 4-м месцы па вытворчасці гароднiны. Сельскагаспадарчы экспарт Польшчы — 23 мільярды еўра, з іх 70% — у краіны ЕС.

А Беларусь мае яшчэ меншую шчыльнасць насельніцтва, яшчэ болей вольнай зямлі.

# Што прынясе «ноч жаху»

Зміцер ГАЛКО

**Падзеі, якія адбыліся ў навагоднюю ноч у Кёльне, могуць стаць бомбай для фраў Меркель, а могуць — паваротным момантам у праблеме мігрантаў у Еўропе.**


© picture-alliance/dpa/M. Böhm

### Сусветны міграцыйны крызіс

Згодна з дадзенымі Упраўлення Вярхоўнага камісара ААН па справах уцекачоў, колькасць вымушаных перасяленцаў у свеце дасягнула рэкорднага з часоў Другой сусветнай вайны ўзроўню. Агулам іх налічылі 60 мільёнаў. Толькі дзевяць з паловай мільёнаў адных сірыйцаў сталі або ўнутранымі перасяленцамі, або ўцекачамі. Больш за два мільёны сірыйскіх грамадзянаў прыняла Турцыя, больш за мільён — Ліван, больш за паўмільёна — Іарданія.

Да Еўропы дабраліся каля 150 тысяч сірыйцаў. І спрычыніліся да таго, што прынята называць Еўрапейскім міграцыйным крызісам. Агулам папрасілі прытулку ў Еўропе цягам мінулага года каля мільёна ўцекачоў, сірыйцы ж сярод іх былі найбольшай нацыянальнай групай.

### Еўропа і ўцекачы

Агромністая колькасць уцекачоў стала яшчэ адным праблемным пытаннем, якое прадэманстравала адсутнасць адзінства ў Еўрапейскім саюзе.

Венгерскі прэм'ер Віктар Орбан, крытыкуючы міграцыйную палітыку ЕС, назваў яе «вар'яцтвам». Ён казаў, што «маральна і па-чалавечы трэба прасіць іх (уцекачоў), каб не прыязджалі», а заставаліся, напрыклад, у Турцыі. Міністр замежных справаў Брытаніі Філіп Хэманд страшыў чамусьці «мільёнамі афрыканскіх мігрантаў», якія разбураць сацыяльную інфраструктуру, жыццёвыя стандарты і бяспеку, а Еўропа не зможа сябе абараніць. Міністр унутраных спраў Брытаніі Тэрэза Мэй сказала, што дапамагаць уцекачам, вядома, важна, але не тым, хто «дастаткова дужы і моцны, каб дабрацца да Еўропы».

Польскі прэзідэнт Анджэй Дуда адрынуў прапанову абавязковых міграцыйных квотаў, назваўшы яе спробай «дыктату моцнага». Супраць квотаў прагаласавалі Чэхія, Венгрыя, Румынія і Славакія. На што вельмі рэзка адрэагаваў прэзідэнт Францыі, сказаўшы: «Тыя, хто не падзяляе нашы каштоўнасці, хто нават не паважае гэтыя прынцыпы, павінны пачаць задаваць сабе пытанні аб сваім месцы ў Еўрапейскім саюзе».

### Willkommenskultur

Дзе-нідзе ўзводзілі платы, агароджваліся калючым дротам, сустракалі ўцекачоў не хлебам-соллю, а вадамётамі і слёзацечным газам.

І тут раптам насустрач уцекачам раскрыла свае абдымкі Германія. Ангела Меркель заявіла пра гатоўнасць прымаць іх без абмежаванняў. Канцлер дадала, што «калі мы будзем шкадаваць пра сяброўскую дапамогу тым, хто мае ў ёй патрэбу ў надзвычайнай сітуацыі, тады гэта не мая краіна».

Тысячы ўцекачоў, якіх сустрэлі не вельмі прыязна ў першых-лепшых еўрапейскіх краінах, радасна скандуючы: «Германія! Германія! Германія!», адгукнуліся на запрашэнне і агромністай грамадой рушылі туды.

Тут іх сустрэлі з рознакаляровымі плакатамі, дзе намаляваныя сэрцайкі і напісана «Ласкава запрашаем!». Усмешкі, апладысменты, сяброўскія поціскі рук, абдымкі, слёзы радасці.

Тысячы простых немцаў падключыліся да дапамогі ўцекачам у якасці валанцёраў. Яны прывозілі ежу і адзенне ў лагеры, аддавалі канапы і ровары, падвозілі іх на сваіх машынах, дапамагалі ім з перакладам, вучылі іх нямецкай мове, аказвалі ім медыцынскую дапамогу, нянькалі іх дзяцей, адкрывалі для іх дзіцячыя садочкі, школкі і футбольныя клубы.

Калі раней Германія вучыла свет словам кшталту Blitzkrieg, цяпер яна вучыць яго слову Willkommenskultur, што азначае «культура гасціннасці».


© picture-alliance/dpa/M. Böhm

Германія прыняла 85% усіх сірыйскіх уцекачоў і яшчэ — без перабольшання — сотні тысяч іншых у дадатак. Іракцаў, афганцаў, пакістанцаў, нігерыйцаў і яшчэ богведама каго.

### Цудоўнае ператварэнне Германіі

Так, немцы вельмі змяніліся за апошнія семдзесят гадоў. Ды што там семдзесят гадоў, яшчэ ў васьмідзясятых Гельмут Коль па сакрэце дзяліўся з Маргарэт Тэтчар сваімі планамі выкінуць з краіны хаця б палову ўсіх прышлых туркаў. Дарэчы, добра нам усім цяпер вядомае слова Gastarbeiter, якое ўжывалася ў адносінах да іх, выкарыстоўвалася невыпадкова. Германія разлічвала на тое, што яны пагасцююць, то бок папрацуюць, і паедуць дадому, дахаты. Нямецкае грамадзянства тады давалі толькі тым, у каго бацькі нарадзіліся ў Германіі. Нават дзеці тых гастарбайтэраў, якія аднаўлялі заходненямецкую народную гаспадарку пасля вайны, не маглі на яго разлічваць.

«Мы не краіна мігрантаў», — сказаў тады катэгарычна Гельмут Коль.

А на пачатку 1990-х гадоў немцы прадэманстравалі на практыцы, што гэта азначае, зноў паказаўшы свету пагрозлівае аблічча. Па краіне пракацілася серыя жорсткіх нападаў на мігрантаў.

У 1991-м у горадзе Хойерсверда праварадыкалы атакавалі в'етнамскіх латочнікаў, інтэрнат, дзе жылі рабочыя з Мазамбіку, якія працавалі па кантракту. Закідалі камянямі і кактэйлямі Молатава шматкватэрны дом, дзе жылі ўцекачы. У сутычках пацярпелі 32 чалавекі.

У 1992-м у горадзе Ростак быў атакаваны інтэрнат, дзе на той час пражывала каля 11

# Кёльнскі рубікон: наступствы для рэгіёну

Алег НОВІКАЎ

**Навагоднія эксцэсы ў Кёльне выйшлі за межы руціннага крымінальнага следства ў рамках аднаго горада не толькі на нямецкі федэральны, аднак і на сусветны ўзровень. Экспертная супольнасць краін СНД таксама абмяркоўвае магчымыя наступствы кёльнскага сіндрому для нашага рэгіёну.**

Натуральна, міма не прайшла крамлёўская прапаганда, якая падае падзеі на берагах Рэйна ледзь не як цывілізацыйную капітуляцыю Захаду. Эдуард Лімонаў на старонках газеты «Известия» не шкадуе эмоцый: «Калі ў апошнія гады Рымскай імперыі варвары хлынулі ў імперыю, яны спачатку шукалі абароны ў імперыі ад іншых варвараў, якія з імі ваявалі. А потым разадралі імперыю, як падушку, а пяшчотныя рымляне, войскі якіх складаліся з варвараў, нічога не маглі зрабіць».

Аднак пальма першынства належыць газеце «Комсомольская правда», якая здолела пабачыць у кёльнскай гісторыі трыумф расійскіх мужчын. «Такога, як у Кёльне, у нас адбыцца не можа. І на тое ёсць шэраг прычын. Наша мужчынскае насельніцтва гатова востра рэагаваць на любыя праявы замаху з боку іншых на нашых. Паасобку многія аддадуць перавагу адвярнуцца, калі тыя ж каўказцы або ўраджэнцы Сярэдняй Азіі прыстаюць да жанчыну. Але варта кроплі перапоўніць чашу цярпення, варта кінуць кліч, што «нашых б'юць», і народ масава ламанецца разбіраць бліжэйшыя агароджы, што-небудзь ламаць і выцягваць для «прывядзення «абарзелых» у пачуццё», — піша калумніст Аляксандр Грышын.

Калі сур'ёзна, то Кёльн разглядаюць як доказ таго, што імпарт дэмакратыі ў краіны СНД вельмі небяспечны. Вядомы журналіст Віталь Траццякоў заяўляе: «Кёльн канчаткова працверазіў нашых адказных (безадказных ужо нішто не выправіць) палітыкаў, а таксама кіраўнікоў дзяржавы і чыноўнікаў. Працверазіў у тым сэнсе, што гэтыя людзі зразумеюць нарэшце ўсю згубнасць паточнага, някрытычнага, а прасцей кажучы — бяздумнага, пераносу шляхам так званых рэформаў і мадэрнізацыі практычна ўсіх палітычных і сацыяльных практык (як еўрасаюзаўскі «мультыкультуралізм») з краін Захаду».

**Калі мы будзем шкадаваць пра сяброўскую дапамогу тым, хто мае ў ёй патрэбу, тады гэта не мая краіна**



У сваю чаргу, ліберальная аналітыка схіляецца да думкі, што Еўропа вырашыць праблему, пра што ў тым ліку сведчыць гісторыя. Мікола Рудзенскі на партале Грани.ру ўзгадвае, што «роўна сто гадоў таму ў Нью-Ёрку выйшла кніга «Канец

# ў Кёльне?

тысяч цыганоў з Румыніі, у нападзе бралі ўдзел некалькі сотняў правападыкальных экстрэмістаў. Пасля таго, як прытулак для ўцекачоў быў эвакуяваны, экстрэмісты атакавалі суседні будынак, дзе жылі в'етнамскія мігранты. Правардыкалы падпалілі яго. Пакуль будынак гарэў, в'етнамцы забарыкадаваліся ўсярэдзіне, а нападнікі залазілі праз гаўбцы, узброеныя бейсбольнымі бітамі і бутэлькамі з запальнай сумессю. Тым часам унізе сабраўся натоўп з 5 тысяч гледачоў, які прагна сачылі за падзеямі і пляскалі ў ладкі. Падчас беспарадкаў былі паранены 204 паліцыянты.

У 1993-м у горадзе Золінген чацвёра праварадыкалаў падпалілі будынак, дзе жыла вялікая турэцкая сям'я. Тры дзяўчыны і дзве жанчыны загінулі, чатырнаццаць іншых членаў сям'і, у тым ліку некалькі дзяцей, атрымалі раненні, некаторыя з іх — сур'ёзныя.

Усё гэта адбывалася на фоне гарачых палітычных дэбатаў, датычных замежнікаў, якія шукаюць прытулку ў Германіі. Напады былі асуджаныя, па краіне пракацілася хваля дэманстрацыяў супраць іх, але ў 1993 годзе былі прынятыя законы, скіраваныя на істотнае абмежаванне колькасці тых, хто меў права прасіць прытулак.

Адным словам, сённяшняя Германія зусім не такая, якой яна была яшчэ ўчора.

### Ноч жаху

Многім не падабаецца гэтая перамена. Шмат хто аддаў бы перавагу той Германіі, дзе замежнікам былі не вельмі радыя. Яны гавораць, што «Меркель звар'яцела», «Меркель зачытала Германіі смяротны вырак», «Меркель штурхае Еўропу да калектыўнага самагубства» і да т.п.

На іх вуліцы цяпер свята. Яны могуць пацiраць рукі, прыгаворваючы: «Мы ж казалі, мы папярэджвалі!»

Маючы на ўвазе вакханалію, якую зладзіў адурманены натоўп з тысячы маладых мужчын «блізкаўсходняй і паўночнаафрыканскай знешнасці» ў навагоднюю ноч на саборнай плошчы ў Кёльне. Гэта Паўночны Рэйн-Вестфалія, зямля, якая прыняла найбольшую колькасць уцекачоў, пятую частку ад усіх, прынятых краінай. Суседняя Ніжняя Саксонія, напрыклад, большая па памерах, прыняла толькі дзясятую частку.

Гэты натоўп увасобіў адзін з самых распаўсюджаных і даўніх страхаў адносна чужынцаў: «яны прыйдуць на нашы землі і будуць гвалціць нашых жанчын». На момант напісання артыкулу кёльнская паліцыя атрымала ўжо больш за 650 заяваў, пераважна датычных сексуальных нападаў, у тым ліку дзве заявы аб здзейсненых згвалтаваннях. Тых, каго не згвалтавалі, лапалі, мацалі і цапалі, акружаючы адну, дзвюх дзяўчат групамі, раздзіралі вопратку, ніжнюю бялізну.

Тую ноч у СМІ цяпер называюць «ноч жаху» (Horror-Nacht), або «ноч хаосу» (Chaos-Nacht).

### Выпрабаванне для гасціннасці

Здарэнне і без таго пачварнае, але мясцовыя ўлады прымудрыліся зрабіць усё, каб яно стала сапраўднай палітычнай бомбай.

Спачатку яго папросту спрабавалі цалкам замоўчваць. Наступным днём паліцыя афіцыйна адрапартавала: «Навагодняя ноч прайшла пераважна спакойна».

Калі замоўчваць стала ўжо немагчыма, паліцыянты пачалі нязграбна даводзіць, што не трэба звязваць здарэнне з уцекачамі. Не было там уцекачоў і мігрантаў, а была гэта, хутчэй за ўсё, арганізаваная банда кішэнных злодзеяў, якая даўно ўжо арудуе ў ваколіцах, бач ты, якую незвычайную тактыку абралі. І да дзяўчат яны чапляліся, верагодна, толькі з мэтай адцягнуць увагу, каб абчысціць кішэні.




© picture-alliance/dpa/O. Berg

Потым мэр Кёльна, Генрыета Рэкер, падліла масла ў агонь, сказаўшы, што дзяўчатам варта хадзіць групамі і трымацца ад незнаёмцаў на адлегласці выцягнутай рукі, тады ўсё будзе добра. Цяпер, дзякуючы шматлікім кпінам у сацсетках, якія былі падхопленыя буйнымі СМІ, гэтая «адлегласць выцягнутай рукі» вядомая на ўвесь свет.

Бомба ж разарвалася тады, калі нямецкія СМІ апублікавалі паліцэйскую справаздачу для ўнутранага выкарыстання, якая датычыць «ночы жаху», а таксама інтэрв'ю з шараговымі кёльнскімі паліцыянтамі. З гэтых матэрыялаў не толькі вынікае, што паліцыя аказалася бездапаможнай, але яны пацвярджаюць найгоршыя апасенні — вакханалію зладзілі мігранты з уцекачамі. Якія, да таго ж, паводзілі сябе страшэнна нахабна нават у адносінах да паліцыянтаў.

«Такой непавагі да паліцыі я не сустракаў за ўсе 29 гадоў сваёй службы», — сведчыць паліцыянт, які знаходзіўся на месцы падзеяў. У паліцыю ляцелі бутэлькі і петарды. Дзяўчатаў, якія сталі ахвярамі нападаў, штурхалі ў натоўп, не даючы ім прайсці да паліцыянтаў.

Наогул, убачанае падалося патрульным настолькі небяспечным, што яны баяліся, ці не здарылася тут забойстваў.

Цягам прыкладна сарака пяці хвілін паліцыя выціскала з плошчы ачмурэлы натоўп. Многія пабеглі ў прылеглы будынак вакзалу, дзе ванітавалі, спаражняліся, некаторыя падалі без прытомнасці. Ужо на месцы паліцыя атрымала мноства скаргаў на збіццё, абрабаванне і сексуальныя напады. З некаторых дзяўчынаў была сарваная ўся ніжняя бялізна, яны былі шакаваныя і галасілі.

Былі арыштаваныя 15 чалавек, адзін афганец і 14 сірыйцаў. Некаторыя знаходзіліся ў Германіі цягам некалькіх тыдняў, нават дзён.

Адзін патрабаваў, каб з ім абыходзіліся паважліва, бо ён сірыец і яго «запрасіла сюды фраў Меркель». Іншыя на вачах у паліцыянтаў разрывалі свае пасведчанні ўцекачоў і крычалі: «Нічога вы нам не зробіце, мы заўтра пойдзем і яшчэ адно атрымаем!»

Усё гэта вельмі паганыя навіны, якія могуць спарадзіць рост ультраправых настрояў да ўзроўню 1990-х гадоў, падарваць пазіцыі Ангелы Меркель, а галоўнае — прымусіць тых немцаў, якія прадэманстравалі небывалую гасціннасць на фоне агульнаеўрапейскай непрыязнасці да мігрантаў, расчаравацца і пашкадаваць пра яе.

### Што адкрые «ноч жаху»

Зрэшты, гэта не адзіны магчымы зыход падзеяў. Тое, што адбылося, можа абярнуцца і да лепшага.

Уцекачы — не толькі масоўка для фотасесій, якія адлюстроўваюць небывалую гасціннасць і міласэрнасць. Гэта насамрэч вялікая сацыяльная праблема. Асабліва ўцекачы са збяднелых, а часам і здзічэлых мусульманскіх краінаў.

На працягу дзесяцігоддзяў праблему хутчэй замоўчвалі, чым спрабавалі вырашыць. Прыкрываючы яе фігавым лісточкам «мультыкультуралізму». Ідэалогіі, якая на практыцы азначала распіхванне мігрантаў па сваіх гета, дзе яны варыліся ва ўласным соку, культывуючы ўласныя каштоўнасці. І якімі б дзікунскімі тыя каштоўнасці не былі, гэтага ўголас не прызнавалі, нават не абмяркоўвалі, бо ўсе ж культуры, кожная з сваім наборам каштоўнасцяў, раўнапраўныя. Прынцыпова немагчыма, згодна з ідэалогіяй «мультыкультуралізму», сказаць, што адны маюць прыярытэт над іншымі.

Нямецкі тэрмін Leitkultur («вядучая культура» або «пануючая культура») доўгі час непрыстойна было згадваць. Бо ад гэтага адзін крок да таго, што не павінна паўтарыцца.

Зараз ад шкоднага ўяўлення аб роўнасці культураў ёсць шанец адмовіцца. Бо культура — гэта таксама культура паводзінаў і культура ўзаемаадносінаў. У тым ліку паміж жанчынай і мужчынам. Не тое каб адурманены натоўп еўрапейскіх мужчынаў быў цалкам бяспечным асяродкам для дзяўчат, але не да такой ступені, як адурманены натоўп мужчынаў, выхаваных на ўяўленні аб жанчынах як ніжэйшых і падпарадкаваных істотах. Ужо не кажучы пра тое, што яны думаюць пра самотных дзяўчат, якія маюць нахабства гуляць без суправаджэння мужчыны познім вечарам з адкрытымі тварамі.

Ну і яшчэ знайсці адказ на пытанне, з якой прычыны значная, калі не большая, частка мігрантаў упарта папаўняе шэрагі сацыяльных нізоў. Асяродку, які сам па сабе з'яўляецца пажыўным булёнам для ўсякага роду бескультур'я.

Каб «ноч жаху» не адкрыла скрыню Пандоры, трэба, каб яна зняла табу з усяго, што тычыцца мігрантаў, і адкрыла такім чынам магчымасць вырашэння праблемы.

---

вялікай расы». Яе аўтар, Мэдысан Грант, прадракаў сваёй краіне занепад з-за наплыву італьянцаў і яўрэяў. «Карэнны амерыканец... паступова сыходзіць са сцэны, пакідаючы гэтым чужынцам зямлю, якую ён заваяваў і асвоіў», — заключаў аўтар. Кніга Гранта мела сенсацыйны поспех, аднак з часам папулярнасць гэтых поглядаў сышла на нішто: стала ясна, што, нягледзячы на значны і нарастаючы прыток імігрантаў, ніякага «канца вялікай расы» няма і не будзе. Масавая іміграцыя, безумоўна, спараджае шматлікія праблемы, але, як паказвае вопыт, заходняе грамадства здольнае іх вырашаць».

Для ўкраінскай аналітыкі вельмі важная праблема — перспектыва еўраінтэграцыі краіны ў кантэксце росту палітычнай напружанасці ў ЕС. Тут некалькі падыходаў. Некаторыя, напрыклад Міхаіл Пагрэбінскі, лічаць, што ўкраінскае пытанне ў падобных умовах будзе сыходзіць на перыферыю. «З парадку дня




© Reuters/W. Rattay

Украіна выпадае, як мне здаецца, чым далей, тым больш», — піша ён. Іншыя, напрыклад, кіеўскі эксперт Сяргей Кулік, лічаць, што бюракратычная машына Еўропы ўжо занадта «раскачагарылася» і на дадзеным этапе спыніць рух насустрач ЕС і Украіны будзе цяжка.

Нарэшце, агучаны незвычайны прагназ, паводле якога ўкраінцы цяпер будуць больш крытычна глядзець на Еўропу, дзе назіраюцца сур'ёзныя праблемы з бяспекай, а працаўладкавацца з-за мігрантаў будзе больш цяжка. «Магчыма пераарыентацыя на новыя геапалітычныя каштоўнасці», — кажа кіеўскі эксперт Аляксандра Рэшмедзілава ў інтэрв'ю каналу «112». Патэнцыйную папулярнасць такіх настрояў дэманструе заява аднаго з дэпутатаў Вярхоўнай Рады Украіны. «Каштоўнасць Еўропы пасля ўварвання ў яе мільёнаў арабаў для любога цывілізаванага чалавека цяпер такая ж, як і смачнасць саспелага чырвонага яблыка, у якім раптам завяліся чарвякі. Непрывабна і нясмачна!» — заявіў дэпутат.

Наступная тэма дыскусіі ў СМІ — будучыня Германіі, дзе найбольш імкліва абвастраецца грамадская палярызацыя вакол міграцыйнага пытання. Аглядальнік Ігар Мальцаў на старонках газеты «Известия» выдае наступны прагноз: «Пакуль паліцыя, якая не можа справіцца з абкураныя гасцямі з Усходу, можа лёгка штурхаць дэманстрантаў з простымі плакатамі «Фраў Меркель, дзе вы былі? Фраў Меркель — што вы сказалі?», у краіне можа скласціся сітуацыя грамадзянскага канфлікту. Ці не з'явіцца фантом тэрарыстычнай «Фракцыі чырвонай арміі» як адказ на татальную несправядлівасць і крывадушнасць палітыкаў?». У сваю чаргу Уладзіслаў Бялоў, намеснік дырэктара Інстытута Еўропы РАН, мяркуе, што Меркель, якой пакуль няма альтэрнатывы, кантралюе сітуацыю: «Падзеі ў Кёльне ёсць вельмі станоўчымі для ўрада — ён можа прымаць пастановы, якія даюць магчымасць зрабіць больш жорсткім прымяненне карнага інструментарыю ў дачыненні да асоб, якія парушаюць закон».

Што тычыцца прагнозаў па Германіі, то тэстам стануць зямельныя выбары ў трох рэгіёнах 16 сакавіка. Іх вынікі пакажуць, куды рухаецца Германія. Для лёсаў Еўропы, як прынамсі лічыць кіеўскі палітолаг Міхаіл Пагрэбінскі, выпрабаваннем будзе вясна, калі пачнецца сезон іміграцыі. «Сітуацыя на Блізкім Усходзе і ў Паўночнай Афрыцы абвастраецца. У Еўропе 2016-ы наогул можа быць годам еўрапейскай катастрофы. Мільён бежанцаў ужо зайшлі і яшчэ, як я разумею, 10 мільёнаў на чарзе. Як гэта спыніць, маючы сённяшнюю еўрапейскую філасофію талерантнасці? Калі людзі ідуць, ламаючы ўсё, ці будуць у іх страляць? Не будуць. Еўропа не ведае, што рабіць», — піша Пагрэбінскі.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### БРАЗІЛІЯ. З-за крызісу адменяць карнавал

Славуты бразільскі карнавал пад пагрозай. Самы моцны за апошні час эканамічны крызіс прымусіў шматлікія бразільскія муніцыпалітэты як мінімум скараціць маштаб карнавальных мерапрыемстваў, якія традыцыйна праходзяць у лютым. Каб цалкам не адмаўляцца ад традыцыі, карнавальныя шэсці будуць абмежаваныя па часе да 2–3 гадзінаў. Дэфіцыт грошай на карнавалы выклікаў чарговую порцыю крытыкі на адрас цэнтральнага ўраду. Крытыкі адміністрацыі прэзідэнта Дзілмы Русэф лічаць, што ўрад павінен падтрымаць карнавалы, паколькі гэта важны артыкул для мясцовых бюджэтаў. Штогод мільён турыстаў наведвае краіну якраз у сезон карнавалаў. Між тым, гісторыкі ўжо заявілі, што горш сітуацыя была толькі ў 1930 годзе, калі да Бразіліі дабраўся сусветны крызіс. Цікава, што пад пагрозай і славуты лютаўскі карнавал у Кёльне. Праўда, у арганізатараў кёльнскага карнавалу праблемы не матэрыяльнага характару. Карнавал, калі верыць СМІ, можа не адпавядаць светапогляду прадстаўнікоў апошняй хвалі імігрантаў, што можа справакаваць вулічныя канфлікты.

**Паводле брытанскай прэсы**

### АЗЕРБАЙДЖАН. Правал антыалкагольнай кампаніі

З 1 студзеня 2016 года ў Азербайджане ўступілі ў сілу патрабаванні па абароту падакцызных тавараў (у пералік падакцызных тавараў уваходзяць усе віды спіртных напояў, піва, тытунёвыя вырабы). Акрамя ўсяго іншага, патрабаванні прадугледжваюць забарону на продаж за наяўныя грошы спіртных напояў і тытунёвых вырабаў. Згодна з правіламі, купля і продаж падакцызнай прадукцыі магчымая шляхам выключна безнаяўнай аплаты. Тым, хто парушыць новыя правілы, пагражае штраф да 2000 манатаў, і нават два гады турмы. Змяненні ў гандлі падакцызнымі таварамі планаваліся даўно і падаваліся ў афіцыйнай прэсе як праява клопату ўраду аб здароўі маладых азербайджанцаў. Падавалася, усё правільна. У краіне, дзе жывуць 8 мільёнаў чалавек, дзейнічаюць 6 мільёнаў банкаўскіх картак. Прычына — абвал нацыянальнай валюты напярэдадні новага года (з 1,4 да 2 манатаў за долар). Гэта выклікала рост коштаў на тавары і незадавальненне насельніцтва. У выніку ніякіх бонусаў продаж піва і тытуню па картках для рэжыму Аліева не прынёс. 13 студзеня закон адмянілі, паколькі спажыўцы, маўляў, да гэтага яшчэ не гатовыя.

**Паводле азербайджанскай прэсы**

### РАСІЯ. Колькі разоў спяваць гімн?

У Расіі новая дыскусія. Грамадскасць спрабуе вырашыць, колькі разоў школьнікі павінны спяваць дзяржаўны гімн. Дыскусію справакавала ідэя дэпутатаў абласной думы Цюменскай вобласці, якія прапанавалі абавязаць школьнікаў спяваць гімн на пачатку кожнай чвэрці, паколькі «ва ўмовах сучасных выклікаў патрыятычнае выхаванне моладзі мае асаблівую важнасць». Рэакцыя грамадскасці на незвычайную ініцыятыву збольшага іранічная. Справа ў тым, што не так даўно ад Жырыноўскага паступіла аналагічная ініцыятыва. З той толькі розніцай, што спяваць гімн прапаноўвалася штотыдзень. Аднак профільны камітэт Дзярждумы РФ законапраект не ўхваліў, палічыўшы празмерным. «Такім чынам, цюменскія дэпутаты, улічыўшы няўдалы вопыт федэральных калегаў, проста паменшылі частату выканання гімна. Калі і гэтая ініцыятыва не пройдзе, лагічна выказаць здагадку, што ў наступны раз галоўную песню краіны прапануюць ўрачыста выконваць раз на паўгода», — іранізуе адно з выданняў. З іншага боку, правал на федэральным узроўні цюменскія парламентарыі могуць кампенсаваць на мясцовым, як гэта робіцца ў некаторых рэгіёнах: у Кастрамской і Белгародскай абласцях гімн спяваюць перад першым урокам штодня, у Чачні — штотыдзень, а ў Інгушэціі — штомесяц.

**Паводле расійскай прэсы**

### ЗША. Марыхуана супраць Ісламскай дзяржавы

Амерыканскія прыхільнікі легалізацыі марыхуаны прыдумалі новы аргумент для сваіх патрабаванняў. Па іх калькуляцыі, легалізацыя марыхуаны дазволіць ЗША зэканоміць на розных антынаркатычных службах каля мільярда долараў за адзін год. Гэтай сумы хопіць, каб мабілізаваць дадатковыя сілы і цалкам знішчыць тэрарыстычную групоўку «Ісламская дзяржава». Разлікі аматараў марыхуаны пакуль не выклікалі інтарэсу чыноўнікаў, для якіх такое рашэнне — капітуляцыі ў барацьбе з наркамафіяй. Між тым, тэма марыхуаны сапраўды становіцца важным чыннікам вайны з ісламістамі, якія не толькі забаранілі гэтую расліну на сваёй тэрыторыі, аднак у дадатак арганізуюць рэйды супраць фермераў на Захадзе Сірыі, дзе даўно вырошчваюць каноплі для кантрабанды. Як піша прэса, сяляне і мясцовая наркамафія ў адказ стварылі атрады супраціву і нават уступілі ў адно з апазіцыйных сірыйскіх фарміраванняў.

**Паводле амерыканскай прэсы**




Фота www.slavpeople.com

# Ад гарадоў да жукоў і парфумы

Алег НОВІКАЎ

**У Расіі ў продажы з'явіўся мужчынскі парфум «Уладзімір Пуцін». У гісторыі імёнамі палітыкаў (дыктатараў і герояў) называлі шмат чаго. Гарады, караблі, аэрапорты, стадыёны, вуліцы, навучальныя ўстановы... — гэта далёка не поўны спіс аб'ектаў, якія носяць імя нейкага палітычнага дзеяча.**

Напрыклад, у прыродзе сустракаецца жук, названы ў гонар былога прэзідэнта ЗША Джорджа Буша. Палітызацыя свету энтамалогіі — заслуга навукоўца Квенціна Уілера. Ён кажа, што, будучы па палітычных поглядах кансерватарам, хацеў такім чынам выказаць сваю палітычную пазіцыю. Па словах Уілера, Буш падзякаваў за жука, які носіць яго імя.

Калі ўжо ў гонар палітыкаў называць жукоў, то кветкам, можна сказаць, было наканавана насіць гучныя назвы. Напэўна, самая славутая кветка, названая ў прыліве любові да палітыка, — кімчэнірхва. Гэта бягонія, якую вывеў у 1988 годзе адзін японскі прыхільнік Кім Чэн Іра з нагоды 45-га юбілею правадыра. Не дарма кімчэнірхва квітнее 16 лютага — у дзень нараджэння дыктатара. Кветка адразу стала сімвалам рэжыму. Штогод у лютым у сталіцы КНДР Пхеньяне праводзіцца незвычайны фестываль кімчэнірхваў, выдаюцца навуковыя працы пра тое, як яе лепш разводзіць, у гонар кветкі нават складзена песня.

У 2012 годзе ўлады Сінгапура назвалі новы спецыяльна выведзены гатунак архідэі імем канцлера Германіі Ангелы Меркель. У прэсе пішуць, што Меркель была вельмі расчуленая, пабачыўшы Dendrobium Angela Merkel — мятровую расліну з фіялетавымі кветкамі. У Сінгапуры з'явілася на свет і архідэя, прымеркаваная да 85-годдзя Маргарэт Тэтчэр.

Трэба падкрэсліць, што імёны палітыкаў розным раслінам пачалі даваць значна раней. На пачатку XIX стагоддзя адно з дрэваў у Паўночнай Амерыцы назвалі Франклінам у гонар прэзідэнта Франкліна, а нейкую чылійскую ліяну — Жазэфінай, каб засведчыць павагу да жонкі Напалеона.

У гонар правіцеляў называлі гарады, вуліцы і нават рэлігійныя ўстановы. Так, у Асманскай імперыі з'явілася традыцыя надаваць рэлігійным установам імёны султанаў і іх сямейнікаў. У нашы часы пра былыя звычкі султанаў узгадалі ў Чачні. Нядаўна ў горадзе Шалі пачалі будаваць мячэць імя дзеючага прэзідэнта Чачэнскай рэспублікі Рамзана Кадырава. Увогуле, сям'я Кадырава шырока прадстаўленая ў царкоўнай геаграфіі рэгіёну. Галоўная мячэць Грознага названая ў гонар Ахмата, бацькі Рамзана. Будуецца мячэць у Аргуне, што будзе насіць імя маці Рамзана — Айманам Кадыравай. У радавой вёсцы Кадыравых мясцовая мячэць носіць імя дзеда Кадырава — Абдул-Хаміда.

Калі ўжо гаворка пра мінулае, то варта нагадаць, што якраз у сярэднявечныя часы пачалі даваць імёны палітыкаў розным алкагольным напоям. Так, у Бельгіі ў гонар іспанскага імператара Карла, які тут нарадзіўся, быў звараны асаблівы гатунак піва. У Шатландыі мясцовага караля Роберта ўшанавалі з дапамогай названага ў яго гонар віскі. Гларыфікацыя палітыкаў праз алкаголь захавалася да нашага часу. Дастаткова ўзгадаць гарэлку «Ельцын». Праўда, у дадзеным выпадку ўлічвалася ў тым ліку тое, што экс-прэзідэнт Расіі часта быў не вельмі цвярозы на публіцы.

Аднак з улікам кан'яка «Напалеон», праслаўленне прозвішча правіцеля праз алкаголь выглядае не так ужо і кепска. Не дарма ў 2012 годзе ўлады партугальскага горада Санта-Комба-Дао вырашылі назваць новы гатунак чырвонага віна ў гонар экс-дыктатара Антоніа Салазара, а пасля пачаць нават выраб кілбасы пад тым жа брэндам. Такія планы выклікалі неадназначную рэакцыю насельніцтва.

У апошні час практыка называць нешта ў гонар палітыкаў пачала выкарыстоўвацца для іх кампраметацыі. Так, у 2013 годзе амерыканскія эколагі з руху «305 Movement» звярнуліся да Сусветнай метэаралагічнай арганізацыі з прапановай даваць разбуральным ураганам імёны палітыкаў, якія грэбліва ставяцца да праблемы змены клімату на Зямлі. Гаворка ідзе ў першую чаргу пра палітыкаў, якія лабіруюць інтарэсы нафтавых і вуглездабыўных кампаній. У прыватнасці, ураганы прапанавалася назваць у гонар Рыка Пэры, губернатара Тэхасу, які лічыў змяненне клімату «выдумкай навукоўцаў».

Нельга прайсці міма спробаў надаваць імёны палітыкаў чаму-небудзь дзеля кан'юнктуры. Так, некаторыя ўкраінскія палітычныя колы заклікаюць кіеўскую мэрыю перайменаваць Паветранафлоцкі праспект у гонар расійскага апазіцыйнага палітыка Барыса Нямцова. Прыхільнікі праспекту Нямцова лічаць, што змена назвы будзе моцным маральным ударам для кіраўніцтва Расійскай Федэрацыі, пасольства якой знаходзіцца якраз на гэтай вуліцы.

Практыка называць нешта ў гонар пэўнай асобы ўтрымлівае рызыкі. Пасля змены рэжыму, як правіла, рашэнне пра перайменаванне намагаюцца адразу адмяніць. Напрыклад, у Туркменістане пасля смерці Ніязава новае кіраўніцтва вырашыла вярнуць у каляндар старую назву месяцу «студзень», які набожных пры жыцці паспеў перайменаваць у свой гонар: першы дзень новага года ў ніязаўскім Туркменістане называўся 1 туркменбашы.

Думаецца, парфум імя Пуціна таксама ўвойдзе ў гісторыю як сімвал падхалімства. Прынамсі, нават на расійскіх інтэрнэт-форумах шмат жартаў наконт гэтага тавару. Некаторыя каментатары, напрыклад, здзіўленыя — чаму парфум не мае колеру крыві? Аднак, падаецца, эксперымент з парфумам у гонар палітыкаў яшчэ не закончаны. Уладзіслаў Рэкуноў, аўтар Пуцінскага водару, заявіў, што марыць стварыць парфум у гонар беларускага кіраўніка Аляксандра Лукашэнкі.

# Карсіканскі сюрпрыз

Алег НОВІКАЎ

**Пакуль уся Францыя хвалявалася наконт вынікаў снежаньскіх рэгіянальных выбараў, уладу на Корсіцы ўпершыню ў гісторыі захапілі мясцовыя нацыяналісты. Ціператворыцца радзіма Напалеона ў новую гарачую кропку Еўропы?**




«Я пераканаены, што гэты маленькі востраў (Корсіка) калі-небудзь уразіць Еўропу», — пісаў Паскаль Паолі, бацька цяперашніх карсіканскіх нацыяналістаў у далёкім 1757 годзе. Наконт Еўропы казаць яшчэ рана, а вось Францыю Корсіка сапраўды ўразіла. Калі меркаваць па рэакцыі парыжскай прэсы, ніхто нават у думках не дапускаў, што нацыяналісты па выніках апошніх рэгіянальных выбараў захопяць уладу ў Бастыі (асноўны порт і важны эканамічны цэнтр рэгёна).

Фрагментарна такі сцэнар адлюстроўваў французскі кінематограф. Як правіла, прыхільнікі незалежнай Корсікі на вялікім экране апошнім часам былі выяўленыя камічнымі мафіёзі сярэдняй рукі, якія для прыкрыцця сваёй крымінальнай актыўнасці ўжываюць нацыяналістычную рыторыку. Акрамя таго ў 2014 годзе вядучая карсіканская нацыяналістычная тэрарыстычная групоўка «Фронт нацыянальнага вызвалення Корсікі» (FLNK) абвясціла пра адмову ад вайсковых форм барацьбы. Некаторыя палітолагі ўбачылі ў гэтым прыкмету таго, што карсіканскі нацыяналізм страціў дынаміку, якую меў у 1990-я гады, калі тэрарыстамі FLNK быў забіты прэфект Клод Эрыньяк — асноўны прадстаўнік Парыжу на востраве.

І вось нечакана інтарэс да нацыяналістаў адрадзіўся, прычым у значна большых маштабах. Паводле вынікаў галасавання на рэгіянальных выбарах у снежні, «Pè a Corsica» («За Корсіку») — шырокая кааліцыя прыхільнікаў карсіканскай незалежнасці — атрымала 24 з 51 месца ў тэрытарыяльнай Асамблеі. У студзені па выніках першага пасяджэння заканадаўчага органу нацыяналісты атрымалі пасады спікера і старшыні выканкаму. Упершыню ў гісторыі спікер у карсіканскім парламенце размаўляе на мясцовай мове.

Відавочна, што цяпер мадэль адносін Парыжа з Корсікай чакае перазагрузка. Нацыяналісты патрабуюць кардынальнага пашырэння правоў Корсікі ў складзе Францыі. «Корсіка–21» — так называецца іх выбарчая праграма, што ўключае сярод іншага такі пункты, як афіцыйны статус для карсіканскай мовы, юрыдычнае афармленне асобнай катэгорыі французскіх грамадзян — рэзідэнты Корсікі, развіццё сваёй карсіканскай эканамічнай мадэлі.

**Прэм'ер-сацыяліст Мануэль Вальс (дарэчы, этнічны каталонец, чым ён вельмі ганарыцца) ужо публічна выказаў сумнеў у існаванні асобнай карсіканскай нацыі. Яго падтрымаў аўтарытэтны правы палітык Ален Жупэ**

Самае радыкальнае патрабаванне ў праграме — прызнаць Корсіку нацыянальнай тэрыторыяй (чытай, нацыянальнай аўтаноміяй). Увогуле, сябры каліцыі не хаваюць, што ў ідэале бачаць Корсіку аналагам цяперашніх Шатланды ў складзе Вялікабрытаніі або Каталоніі ў складзе Іспаніі. Усяго гэтага новая адміністрацыя востраву збіраецца дабіцца ўжо да 2021 года.

Сярод шараговых актывістаў настрої яшчэ больш радыкальныя. Часопіс «Le Point» цытуе аднаго з выбаршчыкаў «Pè a Corsica», які лічыць, што Францыя — расісцкая дзяржава, у якой ахвярамі дзяржаўнага расізму ёсць карсіканцы. Антыкарсіканскі расізм, па словах інтэрв'юера, настолькі глыбока напоўніў усё французскае грамадства, што нават сярод футбольных суддзяў ёсць нефармальная змова — не даваць пенальці на карысць клубаў з Корсікі.

Сацыёлагі шукаюць прычыны выбуху нацыяналізму ў наступствах рэцэсіі. Як і паўсюль у свеце, на Корсіцы таксама шукаюць адказных за свой цяжкі стан. Стрэлачнікамі, як правіла, выступаюць чыноўнікі з Парыжу, якія адказваюць за фінансавую падтрымку востава. Адначасова вельмі папулярная думка пра тое, што карсіканцы, будучы салідарнымі як адна вялікая сям'я, змогуць лягчэй пераадолець цяжкія часы. Важную функцыю для кансалідацыі карсіканцаў, на думку нацыяналістаў, павінен адыграць інтарэс да роднай мовы і культуры.

Палітолагі ў сваю чаргу звязваюць поспех нацыяналістаў з агульным крызісам французскай палітычнай схемы, у якой на працягу апошніх 40 гадоў усё круцілася вакол супрацьстаяння левых і правых. Цяпер такога катэгарычнага падзелу ў французскай палітыцы няма. У кантынентальнай Францыі недаверам да былых куміраў скарыстаўся «Нацыянальны фронт». На Корсіцы — «Pè a Corsica».

Што тычыцца цэнтру, то той, як і чакалася, у штыкі сустрэў патрабаванні карсіканцаў. Прэм'ер-сацыяліст Мануэль Вальс (дарэчы, этнічны каталонец, чым ён вельмі ганарыцца) ужо публічна выказаў сумнеў у існаванні асобнай карсіканскай нацыі. Яго падтрымаў аўтарытэтны правы палітык Ален Жупэ, паводле якога, дзяржаўнай мовай у Францыі можа быць толькі адна. А «Нацыянальны фронт» вуснамі намесніка Марын Ле Пэн увогуле запатрабаваў ад Франсуа Аланда выканаць нарэшце абавязкі прэзідэнта і «загнаць вучняў у клас», маючы на ўвазе карсіканцаў, якія, мабыць, трошкі пачалі сваволіць.

З улікам таго, што легіслатура нацыяналістаў на Корсіцы толькі пачалася, казаць пра магчымы сцэнар развіцця падзей вельмі рана. Аднак наўрад ці Аланд, якога ў прэсе ахвотна атакуюць за нерашучасць і апартунізм, пойдзе на дыялог з карсіканцамі. Застаецца толькі здагадвацца, якія формы будзе мець канфлікт па лініі Парыж—Корсіка. Апошняя, дарэчы, адзінокай не застанецца. Каталонскія нацыяналісты, якія кантралююць урад у Барселоне, з захапленнем сустрэлі вынікі галасавання на Корсіцы, паабяцаўшы мясцовым палітыкам падтрымку і лобінг у еўраструктурах.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Марын Ле Пэн



Старшыня французскай партыі «Нацыянальны фронт» абвясціла пра з'езд кіраўніцтва партыі, на якім будзе разглядацца пытанне перайменавання структуры. Цяперашнюю назву партыя мае з дня заснавання ў 1972 годзе. Неабходнасць змены назвы адзін з функцыянераў НФ тлумачыць бруднай прапагандысцкай кампаніяй, якую апаненты вядуць супраць партыі. Назва структуры выклікае асацыяцыю з заснавальнікам «Нацыянальнага фронту» Жанам Мары Ле Пэнам, які пачынаў палітычную кар'еру пад выразна праварадыкальнымі лозунгамі. Такая кампраметуючая спадчына стварае псіхалагічны бар'ер паміж новым электаратам НФ і яго актывам, калі прыхільнік партыі баіцца публічна прызнацца ў сваіх сімпатыях. Калі верыць спікерам НФ, да такіх асобаў належаць і тыя грамадзяне мусульманскага веравызнання, якія доўга жывуць у краіне і таксама не ў захапленні ад апошняй хвалі міграцыі. Пакуль найбольш папулярны варыянт для новай назвы партыі — Партыя згоды. Калі змена назвы адбудзецца, то бліжэйшым часам, паколькі набліжаецца прэзідэнцкая кампанія 2017-га. Цікава, што раней рэбрэндынг правялі галісты. У мінулым годзе іх партыя «Саюз за народны рух» стала называцца «Рэспубліканцы». Сярод сацыялістаў таксама ёсць аматары пошуку новай назвы для сваёй структуры.

### Хайка Маас



Міністр юстыцыі ФРГ па слядах брутальных падзей у Кёльне абвясціў пра пачатак рэформы нямецкага заканадаўства пра сексуальныя дамаганні. Сыходзячы са слоў міністра, можна зразумець, што дзяржава гатовая часткова прыслухацца да патрабаванняў феміністычнага руху. Яго прадстаўнікі заклікаюць лічыць згвалтаваннем любы прымус без згоды да палавога акту. На цяперашні дзень у нямецкіх законах «прымус без згоды» і «згвалтаванне» — розныя формы злачынства. Цікава, што патрабаванне да адпаведнай змены заканадаўства было сфармуляванае яшчэ ў Стамбульскай канвенцыі, створанай Саветам Еўропы ў 2010 годзе. Канвенцыю падпісала таксама кіраўніцтва ФРГ, аднак выконваць не спяшалася, хаця яшчэ ўлетку «Зялёныя» прапанавалі на разгляд Бундэстагу адпаведны законапраект. Асноўная праблема тычыцца разумення ахвяры. Кансерватары лічаць, што прыкметай ахвяры павінна быць наяўнасць спробы супраціву. Феміністкі і «Зялёныя» лічаць такі падыход патрыярхальным. Як дакладна будзе выглядаць гэты артыкул нямецкага КК, грамадства даведаецца летам, калі камісія па рэформе закона прапануе свае высновы.

### Заруі Пастанджан



Адна з лідараў армянскай апазіцыі, сябра фракцыі «Спадчына», патрабуе, каб кіраўніцтва Рускай Праваслаўнай Царквы (РПЦ) у асобе патрыярха Кірыла публічна прынесла прабачэнні армянам. Справа ў тым, што на пачатку года Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл у шырокім інтэрв'ю аднаму расійскаму тэлеканалу, звяртаючыся да падзей, што адбываюцца на Блізкім Усходзе і ў Сірыі, назваў іх «генацыдам» і супрацьпаставіў мінуламу. У якасці прыкладу прывёў Асманскую Турцыю. «Там былі хрысціянскія меншасці, але іх ніхто не знішчаў», — заявіў патрыярх. Заява выглядае дзіўнай з улікам таго, што ў Асманскай імперыі вельмі моцна пераследавалі армян. Так ці інакш, словы кіраўніка РПЦ выклікалі пратэсты сярод армян, якія цалкам ігнаруе прарасійская ўрадавая Рэспубліканская партыя. У сваю чаргу, апазіцыя вуснамі Пастанджан настойвае, каб дзяржава і кіраўніцтва армянскай царквы афіцыйна патрабавалі прабачэнняў ад РПЦ. Развязку сітуацыі прадказаць цяжка, аднак, на думку армянскіх палітолагаў, новая рыторыка Масквы можа быць адзнакай асцярожнай рэвізіі старых гістарычных падыходаў, выкліканых дэмаграфічнымі працэсамі ў самой Расіі.

# Таямніцы архіву Васіля Быкава



Сяргей ШАПРАН

**Прычыны называць сябе паэтам Васіль Быкаў не падаваў ніколі. Хоць вядомы, як мінімум, два яго вершы**

Напярэдадні святаў Радыё «Свабода» паведаміла пра літаратурную знаходку — калядны верш, які быў адрасаваны Васілём Быкавым Уладзіміру Караткевічу. Аднак гэта не адзінае Быкаўскае паэтычнае практыкаванне — вядомы, як мінімум, два яго вершы; яшчэ адзін, на смерць Аляксандра Твардоўскага, таксама, магчыма, належыць Быкаву. Дый тую ж калядку Васіль Уладзіміравіч насамрэч адрасаваў не аднаму толькі Караткевічу — яшчэ Рыгору Барадуліну і Нілу Гілевічу.

Вершы Васіль Быкаў спрабаваў пісаць яшчэ ў дзяцінстве. Ён распавядаў падчас гутаркі з сябрам Алесем Адамовічам:

***А. Адамовіч:*** А паэзію любіў? Чытаў?

***В.Быкаў:*** Паэзію не чытаў і не любіў.

***А.А.:*** І на памяць не ведаў?

***В.Б.:*** І на памяць не ведаў.

***А.А.:*** Што, ні Пушкін, ні Лермантаў не ўвайшлі ў цябе?

***В.Б.:*** Не, не. І беларускіх нават не ведаў... Я, канешне, вучыў і ўсё такое, але цягі ў мяне да паэзіі не было абсалютна ніякай.

***А.А.:*** Значыць, і сам не пісаў?

***В.Б.:*** Можна сказаць, што не пісаў. Праўда, аднойчы спрабаваў. Нават, ну, проста гэта быў такі перыяд, можа, адну вясну, накрэмзаў пару вершаў. Вельмі кепска, тады я гэта зразумеў...

А вось што прыгадвае ягоная сястра Валянціна Уладзіміраўна: «Самае галоўнае ў Васіля было чытанне — кніжкі, кніжкі, кніжкі. І ўжо ў той час пісаць пачаў. Як хадзіў у малодшыя класы, я знайшла ў яго сшытак, у якім нейкае апавяданне было. Праўда, ужо забылася, пра што ён там пісаў. Толькі памятаю, што неяк літаратурна напісана было, спрытна і складана, усё роўна як у кніжцы, цэлы сшытак напісаў... Ён жа і вершы спрабаваў пісаць. Але мне таксама нічога не паказваў, толькі даслаў іх у газету «Піянер Беларусі». Аднак нешта не атрымалася ў яго з тымі вершамі — ці ацэнку ім далі нядобрую, ці што, нешта не ацанілі яго тады. Дык ён і кінуў пісаць тыя вершы».

Аднак, нягледзячы на такую безапеляцыйную заяву падчас гутаркі з Адамовічам («Паэзію не чытаў і не любіў»), думаецца, што гэта ўсё ж было не зусім так. Дый сам Васіль Уладзіміравіч засведчыў у «Доўгай дарозе дадому»: «Паэзія, у тым ліку і расейская класіка, мала кранала. Трохі пазней, у юнацтве, пачаў падабацца Лермантаў. І я зразумеў, чаму, калі пасля вайны прачытаў у Буніна, што Лермантаў, а зусім не Пушкін — першы паэт Расеі».

І калі б у Быкава было абсалютнае непрыняцце паэзіі, як бы падчас працы ў «Гродненской правде» ён не толькі здолеў весці літаратурнае аб'яднанне, але яшчэ ў якасці літаратурнага кансультанта перыядычна рабіў агляды творчасці самадзейных паэтаў Гродзеншчыны? Больш за тое, тыя яго агляды, па сведчанні гродзенскай паэткі Дануты Бічэль, «знешне фармальныя, мелі праграмнае ўздзеянне на ўсю далейшую творчасць». Дый ці здольны чалавек — паэзія якога нібыта зусім не цікавіць — даць, да прыкладу, такую ацэнку творчасці (гэта з выступлення Быкава ў 1985 годзе): «Барадулін — гэта чараўнік. Найперш — чараўнік паэтычнай стыхіі, якая жыве ў ім, мабыць, з дня яго нараджэння, і які сам жыве ў ёй, вольна і радасна, як жыве птушка ў палёце, рыба ў вадзе, самааддадзеная жанчына ў каханні. Паэзія для Барадуліна — не варштат, не тачка, не прафесія ўрэшце. Паэзія для яго — бажэсцвенная стыхія, у якой ён нявольнік і ўладар адначасова. Віртуоз і маэстра!»



Фота Уладзіміра Кармілкіна

**Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін**

Разам з тым памылкова было б сцвярджаць, што Быкаў сур'ёзна ставіўся да вершаскладання, бо вядомыя сёння два яго паэтычныя святочныя пасланні — гэта, канешне, проста жартаўлівыя практыкаванні. Першы такі вершаваны экспромт датуецца лютым 1961 года і адрасаваны Рыгору Барадуліну — віншуючы сябра «з светлым, ясным, шчаслівым днём», Быкаў, намаляваўшы чалавечка, які, радасна раскінуўшы рукі, стаіць на лічбе 26 (якой папярэднічаюць лічбы ад адзінкі да 25, заканчваецца ж гэтая, па вызначэнні Быкава, «паэтычная парабала» лічбай 100), далей зрыфмаваў:

*Боты новыя рыпяць:*
*— Сто пяць*
*Сто пяць*
*Барадуліну гадоў*
*пісаць.*
*І не спісацца!*

Ужо іншым разам Васіль Уладзіміравіч паэтычна павіншаваў Барадуліна праз два дзесяцігоддзі і якраз той самай калядкай (заўважым, што ў «свабодаўскай» публікацыі яна крыху адрозніваецца):

*Шчодры вечар, шчаслівы вечар,*
*Самотны вечар, шаноўны пан.*
*Гарыць на куце паўтузін сьвечак —*
*Хрыстос нам сьвеціць і гоніць зман.*

*Хрыстосу слава і кволым слава,*
*Цярплiўцам моцы ў цярпеньні дам,*
*Галодным — хлеба, убогім веры,*
*Жыцьця і шчасьця — усім людзям.*



Фота Найдзена Вылчава

Праўда, паэт Анатоль Вярцінскі ў каментары для «Свабоды» выказаў сумнеў, а ці не народная гэта калядка? І хоць верш сапраўды стылізаваны пад фальклорна-калядны, але, думаецца, напісаны ўсё ж самім Быкавым. На карысць гэтаму сведчыць найперш тое, што калядка насамрэч была адрасаваная не толькі Уладзіміру Караткевічу, а яшчэ Рыгору Барадуліну і Нілу Гілевічу (пра што Ніл Сымонавіч не так даўно сам распавёў у друку). Больш за тое, Барадуліну Быкаў дасылаў тую калядку двойчы, у адным выпадку дапісаўшы: «Здароўічка табе, дарагі дружа, і тваёй мілай сямейцы», а ў другім досыць самаіранічна падпісаўшыся: «Васіль Быкаў, паэта». Калі б аўтарам калядкі быў нехта іншы, то, вядома, такога допісу не магло быць апрыёры.

І яшчэ пра адзін верш. Гэтая гісторыя вядомая са сведчання маскоўскага літаратуразнаўцы Валянціна Аскоцкага, яшчэ аднаго сябра Быкава. 1971 год, развітанне з Аляксандрам Твардоўскім, слынным паэтам і рэдактарам часопіса «Новый мир». Смерць Твардоўскага ўзрушыла многіх. Якраз напярэдадні адбыўся разгром «Нового мира», самага ліберальнага ў той час часопіса, што, мусіць, і справакавала смяротную хваробу Аляксандра Трыфанавіча і яго хуткі сыход. Для Быкава імя Твардоўскага многае значыла. Дастаткова сказаць, што менавіта ў «Новом мире» ў другой палове 1960-х гадоў з'явіліся адны з самых вядомых Быкаўскіх аповесцяў «Мёртвым не баліць», «Круглянскі мост» і «Праклятая вышыня». І менавіта Твардоўскі падтрымаў Быкава тады, калі гродзенскага пісьменніка з падачы ЦК КПСС і КДБ СССР пачаў шальмаваць ледзь не ўвесь усесаюзны друк...

Ужо пасля пахавання сабраліся дома ў Аскоцкага — Васіль Быкаў і Анатоль Вярцінскі. «Змрочна сядзелі за сталом, гарталі том, што выйшаў тады ў «Библиотеке всемирной литературы», чыталі ўголас вершы Аляксандра Трыфанавіча, — прыгадваў Валянцін Дзмітрыевіч. — Васіль разы са два сказаў, што Твардоўскага-рэдактара ставіць вышэй за Твардоўскага-паэта. Паэт ён, вядома, таленавіты, але мець талент — яшчэ ня значыць зьдзейсьніць подзьвіг. А тое, што зроблена «Новым миром», іначай як подзьвігам не назавеш. Не літаратурны — грамадзянскі подзьвіг, які звыш таленту запатрабаваў і самаадданай мужнасьці, і геройскага самаадрачэньня. Затым дастаў з кішэні паперку, складзеную ўчацвёра.

— Вось далі мне чыесьці вершы пра яго. І пра тых, хто на паніхідзе выйшаў на сцэну, стаў каля труны ў ганаровую варту — Мікалай Грыбачоў, Анатоль Сафронаў, іншыя грамілы. Добра, ім хоць бы што. А зале? На нашых вачах пачаўся цынічны зьдзек з памяці, ці тое яшчэ будзе, а мы моўчкі трываем...

Тая паперка з вершамі ляжыць дзесьці ў маіх архівах. Пакуль што я яе не знайшоў і прывесці вершы поўнасцю не магу. Але першая страфа запомнілася тады ж адразу і помніцца дасюль:

*Под некрологом мёртвым слогом,*
*Казённым слогом их речей,*
*Читаю список палачей*
*Того, чей лик над некрологом.*

Чые вершы? Не ведаю. Васіль адказаў няпэўна: так, аднаго знаёмага. Яўна не Толі Вярцінскага — інакш на пахаваньні Васіля, успамінаючы тую нашу сустрэчу ўтраіх, ён не выпытваў бы пра вершы так настойліва — што ў іх было і як, не прасіў бы ўспомніць хоць радок. Дапускаю, што самога Васіля: выліў душу, а прызнацца ў аўтарстве не захацеў. Каб ня зьменшыць прэстыж празаіка? Магчыма, і таму. Ва ўсякім выпадку на маёй памяці прычыны называць сябе паэтам не падаваў ніколі...»

Валянцін Аскоцкі памёр у 2010-м. Ці знайшоў ён, разбіраючы свой архіў, аркушык з тым вершам? Малаверагодна, інакш пра гэта стала б, хутчэй за ўсё, вядома — мы ліставаліся з Валянцінам Дзмітрыевічам і паведамлялі адзін аднаму пра любыя значныя знаходкі, якія былі звязаны з Васілём Быкавым. Такім чынам, гісторыя з вершам памяці Твардоўскага застанецца таямніцай цяпер ужо, відаць, назаўсёды. Хоць, зрэшты, у паэтычных таямніцах часам значна больш сэнсу, чым у прозе будзённасці.



Уладзімір Цвірко ля свайго будынка музея-лецішча



Адзін з куточкаў музея

# Дзівосныя скарбы Уладзіміра Цвірко

Лявон ЦЕЛЕШ

**Такімі людзьмі, як Уладзімір Цвірко, нельга не захапляцца. Бо ён — з ліку тых цягавітых таленавітых беларусаў, хто можа і нараджаць ідэі, і ўвасабляць іх у жыццё. Ён і мастак, і этнограф, і падарожнік, і краязнаўца, і мецэнат, і будаўнік, і наогул майстар на ўсе рукі.**

Пра гэтага незвычайнага чалавека я даведаўся праз інтэрнэт, патэлефанаваў яму, і Уладзімір Андрэевіч гасцінна запрасіў мяне на сваё лецішча, якое знаходзіцца ў вёсцы Хадакова, што непадалёку ад Мінска. 2-павярховы будынак і сядзіба Уладзіміра Цвірко заўважны яшчэ здалёк: ва ўсіх яго суседзяў вакол лецішчаў глухія высокія платы, а ў яго — толькі прыгожыя драўляныя разныя вароты, як бы запрашаючыя: «Калі ласка, заходзьце!».

Са свайго лецішча паважаны Уладзімір Цвірко стварыў вельмі цікавы, змястоўны этнаграфічны музей, сапраўдную дзівосную скарбніцу, якая налічвае звыш 2 тысяч экспанатаў; ад самага маленькага — камсамольскага значка, да самага вялікага і самага цікавага экспаната, магчыма, адзінага ў Беларусі — дзеючага ветранога млына вышынёй усяго 3 метры.



Уладзімір Цвірко ля свайго млына з сабакам Амерыкай

Уладзімір Цвірко пачаў знаёміць мяне са сваім незвычайным музеем менавіта з самага маленькага ў Беларусі млына. А перавёз ён яго з-пад Драгічына, дзе млын працаваў з 1936 года, але з цягам часу ад яго засталіся толькі ўнутраныя механізмы, а драўляная абшыўка ўся згніла. Уладзімір перавёз млын Хадакова, аднавіў усе драўляныя дэталі, зрабіў крылы. І зараз у яго этнаграфічны музей-лецішча прыязджае шмат наведвальнікаў як з Мінска, так і з іншых населеных пунктаў, каб палюбавацца гэтым цудам — мінімлынам, а заадно і іншымі экспанатамі музея. І ўсіх Цвірко, не шкадуючы свайго часу, разам са сваім ласкавым сабакам па мянушцы Амерыка, гасцінна сустракае, не беручы за наведванне ні капейкі.

Гісторыя ў этнаграфічным музеі Уладзіміра Цвірко праглядвае на кожным кроку. Калекцыя начышчаных самавараў, гліняных збаноў плаўна пераходзіць у збор рэдкіх кніг, часопісаў. Ёсць тут і ўзоры глінянай чарапіцы, якая яшчэ ў старажытныя часы з Беларусі ішла на экспарт у заходнія краіны. Яшчэ ёсць калекцыя награвальных на агні прасаў, калаўротаў, музычных інструментаў, вышываных вырабаў, некаторым з якіх ужо каля сто гадоў.

А пачынаў Уладзімір Цвірко свой музей з трох рэчаў, якія засталіся яму ад маці: калаўрота, праса і хлебнай лапаты. З цягам часу многія рэчы дарылі яму яго сябры, знаёмыя. Мой падарунак — 40 тамоў «Большой Советской Энциклопедии» выдання 1954-1955 гадоў таксама папоўнілі музей Уладзіміра Цвірко.

На тэрыторыі сядзібы Уладзімір выкапаў сажалку, у якой




водзяцца карасі, змайстраваў хатку з Бабай Ягой. Амаль усё ў будынку лецішча-музея, пачынаючы ад драўляных лесвіц на другі паверх і заканчваючы камінам, зроблена спрытнымі рукамі самога Уладзіміра.

Увагу прыцягвае нават дарожны слуп, на якім стрэлкамі пазначана адлегласць у кіламетрах ад яго музея да многіх населеных пунктаў Беларусі. А Беларусь Уладзімір аб'ездзіў і абышоў уздоўж і ўпоперак у пошуках недаследаваных будынкаў, якія некалі былі славутасцямі, ад якіх сёння засталіся толькі руіны.

Уладзімір Цвірко — падарожнік, аўтар незвычайнага праекта «150 залатых маршрутаў маёй Беларусі». Ён распавёў, што ў час сваіх паездак бачыў шмат закінутых гістарычных будынкаў, якія не эксплуатуюцца і не падтрымліваюцца ў належным стане. Некалі на іх віселі шыльды, што яны зберагаюцца дзяржавай, і будынкі лічыліся гістарычнай каштоўнасцю, пасля іх знялі шыльды, і паступова гэтыя цікавыя аб'екты прыходзяць у занядбаны стан, зносяцца, становяцца нічыйнымі. Таму ў Цвірко нарадзілася ідэя аб'ехаць усю Беларусь, сфатаграфаваць гэтыя аб'екты, напісаць пра іх, каб як можна больш людзей даведалася пра гістарычнае мінулае нашай краіны. А яшчэ Уладзімір спадзяецца, што кіраўніцтва краіны зверне ўвагу на гэтыя помнікі мінулага.

Перад пачаткам ажыццяўлення свайго праекта Уладзімір Цвірко вывучыў шмат гістарычнай літаратуры, працаваў у архівах, склаў маршруты для сваіх падарожжаў, якіх у яго атрымалася 150, у тым ліку па Брэсцкай вобласці — 28 маршрутаў, па Віцебскай — 24, па Гомельскай — 8, па Гродзенскай — 36, па Магілёўскай — 14, і па Мінскай вобласці — 28 маршрутаў.

Летам 2015 года ў мінскім выдавецтве «Туринфо» выйшаў у свет першы даведнік Уладзіміра Цвірко з серыі «150 залатых маршрутаў маёй Беларусі», які не мае аналагаў. На 40 старонках шчодра аздобленага фотаздымкамі выдання перад чытачом паўстаюць багатыя гістарычнымі падзеямі 36 куточкаў Міншчыны. Тут можна знайсці звесткі і пра Яхімаўшчыну, дзе Янка Купала рыхтаваў свой першы зборнік вершаў «Жалейка», і пра цікавыя старажытныя будынкі Ракава, Івянца, Вішнева, Лоска, Дзераўнай, Рубяжэвічаў ды іншых мясцін.

Дарэчы, плануецца выдаць яшчэ больш за 30 такіх жа даведнікаў, у якіх будзе распавядацца пра іншыя 114 маршрутаў па Беларусі. Гэта будзе вялікім падарункам краязнаўцам, вучням і ўсім, хто неабыякавы да гісторыі Беларусі. Неабходна падкрэсліць, што праект Цвірко «150 залатых маршрутаў маёй Беларусі» з'яўляецца пераможцам XI Нацыянальнага конкурсу «Золотая Литера» за 2015 год у намінацыі «Лепшыя матэрыялы культурнай і гістарычнай тэматыкі».

У беларусаў ёсць трапная прыказка: якое семя, такое і племя. Мяркуючы па ёй, асяроддзе, у якім вырас Уладзімір Цвірко, было вельмі спрыяльным. Нарадзіўся ён у 1957 годзе ў гарадскім пасёлку Мір. Бацька, Андрэй Рыгоравіч, прайшоў усю вайну, дайшоў з баямі да Берліна, атрымаў 5 аскепкавых раненняў. За мужнасць і гераізм быў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі і шматлікімі медалямі, а ў пасляваенны час працаваў будаўніком. Яго продкі паходзілі з Валыні.

Маці, Вера Дзям'янаўна (дзявочае прозвішча — Высоцкая), паходзіла са старажытнага шляхецкага роду гербу «Дрыя», працавала выкладчыцай у школе. Была яна вельмі адукаванай, ведала 4 мовы (польскую, яўрэйскую, татарскую і нямецкую), добра малявала. У час нямецкай акупацыі яна хавала ў сваёй хаце пад пагрозай смерці двух яўрэйскіх дзяцей: хлопчыка і дзяўчынку. Іхнія стрыжаныя галовы яна змазвала дзёгцем і ўсім казала, што гэта яе хворыя дзеткі. Дзеля іх Вера Дзям'янаўна трымала і карову. Пасля вайны дзяўчынку забралі родзічы, і яна больш нічога не ведала пра яе лёс. А хлопчык, Станіслаў, з цягам часу стаў дырэктарам Валгаградскага трактарнага завода, і не аднойчы наведваў сваю выратавальніцу і яе сям'ю.

Усе лепшыя якасці ад бацькоў дасталіся і Уладзіміру, які, маючы добрыя мастацкія здольнасці, 5 гадоў правучыўся ў мастацкай школе А.С. Вахрамеева, скончыўшы якую ў 1983 годзе, атрымаў дыплом па спецыяльнасці мастак-дызайнер і чарцёжнік-канструктар. Уладзімір працаваў у адным з праектных інстытутаў Мінска і выкладаў у мастацкай гімназіі. Ён таксама кіраваў студыяй «Три цвета». А ў 1999 годзе стварыў творчую студыю па вырабу мастацкіх вітражоў «Тыфані». Неадназова Уладзімір Андрэевіч прымаў удзел у выставах графікі і мастацкага фота. Многія яго мастацкія творы знаходзяцца ў Германіі, Аўстрыі. Канадзе і ў прыватных калекцыях.

Вядомы Цвірко і як мецэнат: ён дабрачынна ўстанавіў мастацкія вітражы ў Свята-Троіцкім храме Міра і ў вёсцы Беражно, што ў Карэліцкім раёне. Уладзімір таксама філатэліст. У яго калекцыі налічваецца звыш 18 тысяч марак. Зараз Уладзімір Андрэевіч кіруе творчай студыяй па стварэнні вітражоў, рэстаўрыруе этнаграфічныя экспанаты, прадметы даўніны. Ён сцвярджае, што адчувае сябе шчаслівым чалавекам. Яго надзейная спадарожніца жыцця, жонка Ганна Мікалаеўна, працуе генеральным дырэктарам невялічкай будаўнічай кампаніі, а яшчэ вырошчвае на лецішчы агародніну.

У сям'і Цвірко дзве дачкі — Кацярына і Таццяна, і сын Яўген. Ёсць таксама дзве ўнучкі і ўнук. Вось такі звычайны, а недзе незвычайны наш сучаснік Уладзімір Андрэевіч Цвірко жыве побач з намі і прыносіць людзям карысць і радасць.

# Павуцінка, якая знітоўвае музыку, паэзію і жывапіс

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Прыкра, што на айчынннай рок-сцэне сустракаюцца такія выканаўцы, якіх да беларушчыны штурхае кан'юнктура і меркантылізм.**

Маўляў, пару песенек выканаем на мове, трапім на «Басовішча», прэмію ад арганізатараў атрымаем. А там і на Маскву! Вось так на музычнай сцэне з'яўляюцца «творцы», якія ганарыцца статусам «замежных выканаўцаў» на роднай зямлі.

На шчасце, такіх прыкладаў няшмат. Затое дастаткова тых музыкантаў, якія ідуць цяжкім, але больш пачэсным шляхам. Адзін з такіх калектываў — студыйны гурт «Like a Gossamer», які не так даўно адзначыўся альбомам «Клятва вернасці». Сёння адзін з заснавальнікаў каманды Дзяніс Голін адказвае на пытанні нашага карэспандэнта.




***— Распавядзіце, калі ласка, пра шлях да беларускасці, які прайшлі музыканты гурта «Like a Gossamer» як прадстаўнікі андэграўнду?***

— Яшчэ ў школе мы з хлопцамі заснавалі беларускамоўны метал-гурт, цяпер вядомы прыхільнікам андэргаўнднай сцэны пад назвай «Weeping Twilight». І ўжо тады — у прыклад «Песнярам» — пачалі класці на сваю музыку славутую купалаўскую паэму «Курган». Менавіта кампазіцыі на словы Купалы гучалі на першым нашым канцэрце ў легендарным «А-клубе».

Лагічным было працягнуць тую працу і ў «Like a Gossamer», але ўжо ствараючы ўласны эпас, увасоблены ў мастацкім праекце, дзе на глебе нацыянальнай спадчыны з'ядналіся аўтарская паэзія, музыка ды жывапіс.

***— Многія перыядычныя выданні, у тым ліку і газета «Новы час» (novychas.by), звярнулі ўвагу на ваш альбом — арт-рок-сюіту «Клятва вернасці». А як нарадзілася ідэя гэтага канцэптуальнага твора, як ішла праца над ім?***

— Пэўна, усе мы ў гурце захапляемся творамі Уладзіміра Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха» ды Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня», што натхнілі нас на стварэнне свайго збору легендаў ды паданняў. Андрэя Беларэцкага, як і галоўнага героя «Беларусі ў фантастычных апаваданнях», можна лічыць прататыпамі нашага вандроўніка-этнографа з «Клятвы вернасці».

Паэтка Алена Жукава — аўтарка канцэпцыі — назбірала гэтыя легенды па навуковых ды літаратурных крыніцах. Паводле тых гісторыяў яна напісала цудоўныя вершы. Мастачка Катарына Філіст з Берліна адмыслова для праекта стварыла серыю маналыпіяў, дзе адбіліся героі ды падзеі, пра якія апавядае альбом.

Саўнд-дызайнер ды музыка гурта «Favourite Mirror» Арцём Бусел склаў soundscape-кампазіцыі — без іх падарожжа лірычнага героя «Клятвы вернасці» наўрад ці атрымалася б такім насычаным. Хрыбтом альбома стаў матэрыял нашага фронтмэна ды гітарыста Алеся Акульчыка (ён таксама грае на гітары ў фолк-рок-гурце «Рокаш»). Мне выпала дапрацаваць і аранжаваць гэтыя кампазіцыі.

Запісваўся альбом павольна, з вялікімі перапынкамі, але ўрэшце мы хуценька ўсё дарабілі ды выдалі. Дарэчы, неспрактыкаванаму слухачу можа падацца, што дыск гучыць «несучасна». Але такі прадакшн «а-ля сярэдзіна 90-х» — гэта таксама канцэптуальны крок, бо нам такім чынам хацелася аддаць даніну павагі гуртам, якія паўплывалі на ўсіх нас: «My Dying Bride», «Anathema», «The 3rd and the Mortal»... Дый матэрыял для альбома быў напісаны больш за 10 гадоў таму — такім чынам, падобная гукавая эстэтыка яму пасуе.

***— Пасля выхаду альбома «Клятва вернасці» за «Like a Gossamer» замацавалася азначэнне сур'ёзнага гурта, які імкнецца да складаных музычных форм, да сімвалічнага ўвасаблення літаратурных тэкстаў, узняцця глабальных тэм. Ці будзе захаваны статус-кво, альбо музыканты «Like a Gossamer» плануюць звяртацца да больш простых музычных форм?***

— Можна не сумнявацца. Калі нават нам захочацца выпусціць альбом з творамі простай песеннай формы, дык гэта ўсё адно будзе нешта канцэптуальнае, накшталт шубертаўскага «Зімовага шляху». Рэч зусім не ў форме, але ў тым, якая думка



**Мы ўзялі багатыя выразныя сродкі класікі ды паспрабавалі перанесці іх на metal-глебу. Не абышлося і без джазу**

укладаецца ў твор, на якім ідэйным падмурку ён будуецца.

***— Так ці інакш, а гурт «Like a Gossamer» аддае перавагу metal-накірунку ў творчасці. Але гэтая плынь імкліва змяняецца ў стылістычным плане. Ці плануюць удзельнікі гурта прытрымлівацца аднойчы абранай стылісткі, альбо слухачы змогуць у далейшым пачуць абноўлены metal-саунд «Like a Gossamer»?***

— Адзінае, што, здаецца мне, змянілася ў metal-плыні, — гэта тэхналогіі і гучанне рэлізаў, а таксама бізнес-падыход (цяжкія гурты імкнуцца «прадавацца» гэтаксама актыўна, як і папулярныя выканаўцы). І хоць эксперыментаў тут заўсёды хапала, праз тую ж камерцыялізацыю цяпер цэтлік «прагрэсіўнасці» часцяком лепяць на адкрыта папсовыя каманды, якія працуюць паводле правераных шоў-індустрыяй шаблонаў. З іншага боку, шмат хто вяртаецца «да каранёў», да metal-саўнду 70–90-х гадоў мінулага стагоддзя.

Калі ж казаць пра наш гурт, дык тут я б працытаваў згаданую вышэй Алену Жукаву, якая казала, што «Like a Gossamer» — гэта metal, зайграны па канонах класічнай музыкі. І сапраўды, мы ўзялі багатыя выразныя сродкі класікі (асабліва інструментальнай сімфанічнай музыкі) ды паспрабавалі перанесці іх на metal-глебу. Зрэшты, не абышлося і без элементаў джазу ды народнай музыкі, сучасных кампазітарскіх тэхнік.

Думаю, у такім кірунку пойдзем і далей, каб новыя творы былі такімі ж празрыстымі і атмасфернымі, як тая восеньская павуцінка («Like a Gossamer» — з англійскай мовы "як павуцінка"), на ніцях якой, калі верыць класіку, прывозяць восень павучкі.

***— Сваім канцэптам «Клятва вернасці» гурт вельмі высока ўзняў творчую планку. З гэтага факта могуць быць розныя наступствы. Напрыклад, ці не паўстала неабходнасць змены назвы на больш беларусізаваную? Ці задумваліся музыканты пра «жывыя» канцэрты з праграмай «Клятва вернасці»?***

— Англамоўная назва, мяркую, не замінае «Like a Gossamer» быць ушчэнт беларускім ды транслюваць нацыянальны меседж, як і, да прыкладу, флагману тутэйшага metal-напрамку гурту «Gods Tower», які да ўсяго яшчэ і спявае па-англійску, але чыя прыналежнасць да Беларусі відавочная.

Што да выканання праграмы «жыўцом», дык, сапраўды, нядрэнна было б нагадаць слухачу тыя кампазіцыі з альбома, якія яны маглі чуць на канцэртах «Like a Gossamer» у мінулым, а таксама прэзентаваць тыя творы, якія са сцэны не гучалі. Акурат цяпер да нашага нешматлікага апошнім часам калектыву далучыліся новыя выканаўцы — бас-гітарыст, бубнач і клавішнік, а я граю партыі гітары, якія запісваў для альбома. Разам на рэпетыцыях мы рыхтуем канцэртную праграму. Так што, спадзяемся, праз пару месяцаў усе ахвотныя змогуць пачуць «Клятву вернасці» на якім-небудзь канцэрце «жыўцом».

***— Упэўнены, што новы дыск стаў добрым стымулам для далейшых творчых пошукаў. Над якімі праектамі працуе сёння гурт «Like a Gossamer», і ці хутка мы пачуем вынікі гэтай працы?***

— Пакуль што мы сканцэнтраваліся на «пабочных» праектах: Алесь займаўся міні-альбомам гурта «Рокаш», я рыхтаваў канцэртныя аранжыроўкі матэрыялу «Клятвы вернасці», вучыўся граць на рэнесанснай лютні ды зрабіў у «госамераўскім стылі» апрацоўку яшчэ аднаго беларускага народнага каляднага спеву, які далучыцца да нашай версіі песень «Чаму ў цябе, Воўча...» і «Го-го-го Каза» і, магчыма, увойдзе ў новы рэліз «Like a Gossamer».

Яшчэ ў планах — выпусціць юбілейнае відэапрысвячэнне Міхалу Клеафасу Агінскаму — ролік да кампазіцыі «Непачуты паланэз», які ўбачыць можна будзе ўжо ў бягучым годзе.

**Фота з архіву гурта**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Колб Аксана Мікалаеўна**
Стыль-рэдактар
**Пяроўская Святлана Віктараўна**
**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 42

Падпісана да друку 15. 01.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.